# ЗЬМЕСТ.


Стар.

1. „Дзень Ураджаю“ — сьвята сельска-гаспадарчай культуры і новага быту — **Саф. Хоміч.** . . . 1

## Палявая гаспадарка

2. Асеньняя апрацоўка глебы — **А. Прохараў** . . . 4
3. Трэба гадаваць насеньне ў сваёй гаспадарцы — В. Чэмелаў . . . 6

## Сялянскі досьлед

4. Што дае нам зяблевае ворыва — сел. **Я. М. Савіцкі** . . . 7
5. Угнойваньне поля ўвосень пад ярыну — **Ул. Юркевіч** . . . 7
6. Гаспадарскія памылкі ў скарыстаньні бульбяніцча — сел.-дасьледчык **А. Карунчык** . . . 8
7. Мае дасягненьні — сел.-дасьледчык **В. Францкевіч** . . . 9
8. Ці шкодзіць пасеву трэцяя квадра м-ца, трэці тыдзень і інш. — Селькор-дасьледчык **А. Акшэўскі** . . . 10
9. Бульбоўнік — дапамога сену. — Сел. **Г. Шумілаў** . . . 11
10. Як захаваць бацьвіньне коранеплодаў і правільна яго скарыстаць скацінаю — Селянін-дасьледчык **Н. Зьвераў** . . . 12
11. Мой досьлед з торфам. — Селянін **К. Мяхелка** . . . 12

## Сельская гаспадарка

12. Пабудова агнятрывалых будынкаў. — **Я. Талуціс** . . . 14
13. Як самому зрабіць прыладу для выцеркі насеньня канюшыны. — Аграном **М. Лайкоў** . . . 15

## Лясная гаспадарка

14. Запасайцеся сваячасова апалам — **Т. Гаўрыловіч** . . . 18
15. Гадуйце хутка-растучыя лясныя пароды — **М Шалупенка** . . . 19

## Жывёлагадоўля

16. Трэба скарыстаць зеляніну — **С. Х.** . . . 20
17. Досьлед адкорму сьвіней на Турскай с.-г. дасьледчай станцыі — **М. Драздоў** і **М. Юнгэр** . . . 21
18. Шалёнства ў жывёлы і як з ім змагацца — **М. Жарын** . . . 22

## Каапэрацыя

19. Жыцьцё і праца с.-г. камуны „Зьвязда“ — **М. Клімко** . . . 24

## Садоўніцтва

20. Як падрыхтаваць дзічкі для саду. — Аграном-садавод **І. Пратасевіч** . . . 28
21. Як я выгадаваў добрую капусту — **П. С. Самцэвіч** . . . 29
22. Падрыхтоўка пчол да зімы — Пчаляр **А. Магучы** . . . 32
23. Пытаньні і адказы па зямельных справах . . . 33

## Дзяржаўная дапамога вёсцы

24. Пра новую падсуднасьць спраў зямельным камісіям і разьмежаваньне гэтае падсуднасьці паміж зямельнымі камісіямі і народным судом — **Е. Вішнеўскі** . . . 34
25. Паштовая скрынка . . . 35

## Праца на балоце

26. Аб палепшаньні сенажацяй — Асыстэнт **Лебядзевіч** . . . 36
27. Трэба угнойваць сенажаці — Аграном **Г. Кузін** . . . 38
28. Капайце торф, скарыстоўвайце яго на ўгнаеньне на полі — Аграном **С. Карась** 39

Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# ПЛУГ

Навукова-популярная часопісь сельскай і лясной гаспадаркі

Выходзіць раз у месяц

IV год выданьня Верасень 1928 г. № 9

## „Дзень Ураджаю“—сьвята сельска-гаспадарчай культуры і новага быту.

Шэраг мерапрыемстваў, якія ўводзіць у жыцьцё наша Савецкая ўлада, з кожным годам усё больш і больш замацоўваюцца. Да такіх мерапрыемстваў належыць і сьвята „Дзень Ураджаю“, якое ў апошнія гады заваявала сталае месца ў нашай грамадзкасьці.

Якое значэньне прыдае насельніцтва вёскі „Дню Ўраджаю“ можна ўбачыць з прыкладу арганізацыі і правядзеньня яго ў мінулым годзе на Чэрвеншчыне*). На выстаўцы там было 645 экспанатаў, з якіх 375 падрыхтавалі паасобныя гаспадары, 27 каапэрац. аб'яднаньні, рэшту інш. За 3 дні наведалася на гэтую выстаўку звыш 4000 чалавек. У адносінах да ліку гаспадароў у раёне гэта не вялікая лічба, але прымаючы пад увагу, што выстаўка існавала толькі 3 дні, дык і гэта ёсьць значнае дасягненьне.

У гэтым годзе сьвята „Дзень Ураджаю“ павінна прайсьці пад лёзунгам хэмізацыі сельскай гаспадаркі краіны, з шырокім азнаямленьнем сялянства з вынікамі павышэньня ўраджаю ад прымяненьня мінэральных угнаеньняў. З гэтай мэтай павінна быць яскрава высунута ідэя Асоавіяхіму, з захаваньнем пры сьветкаваньні агрыкультурнага і палітычнага зьместу. Сьвяткаваньне павінна адзначыць ітогі працы па ўзмацненьню сацыялістычных элемэнтаў у сельскай гаспадарцы, выяўленьня больш пасьпяховых шляхоў для далейшага будаўніцтва яе ў гэтым напрамку.

Пачатак сьвяткаваньня „Дню Ураджаю“ для ўсіх акруг і раёнаў прыстасоўваецца, па прыкладу мінулых гадоў, да 14 кастрычніка.

Сьвята „Дзень Ураджаю“ павінна згуртаваць навокал сябе як мага больш гаспадарак. Усе культурныя паасобныя гаспадаркі, саўгасы, розныя с.-г. аб'яднаньні, як арцелі, камуны, с.-г. таварыствы—павінны паказаць свае дасягненьні ваколічнаму сялянству. Посьпех правядзеньня сьвята залежыць ад наліčча падрыхтоўкі. Зямельным працаўнікам, аграномам, трэба гэта мець на ўвазе і правесьці як найшырэй падрыхтоўчую кампанію, каб уцягнуць у сьвяткаваньне больш сялянства, увесь вясковы актыў. У кожнай вёсцы трэба правесьці сялянскія сходы, дзе растлумачыць карысьць сьвята, уплыў яго на палепшаньне гаспадаркі селяніна шляхам азнаямленьня з дасягненьнямі суседзяй і ўжываньня ў далейшым таго-ж самага ў сваёй гаспадарцы. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць арганізатарам сьвята на ўсебаковае выяўленьне калектыўных форм гаспадараньня.

Асяродак усяго сьвята, гэта с.-г. выстаўка. Для сялян выстаўка павінна быць школай вывучэньня сельскай гаспадаркі, таму трэба

*) Сьць. Савіч—„Дзень Ураджаю“ на Чэрвеншчыне. „Плуг“ № 12—1927 г.

дабіцца каб кожны гаспадар калі і ня прымае ўдзелу сваімі экспанатамі, дык каб ён прагледзеў яе. *Сьвята „Дзень Ураджаю“ і с.-г. выстаўка —гэта спосаб барацьбы за новы быт, за сацыялістычную гаспадарку.*

На выстаўцы павінен адбіцца с.-г. напрамак раёну. У экспанатах, дыяграмах, табліцах і г. д., павінна быць высьветлена ўсё тое што дасягнута, што ўжо маюць у сябе лепшага культурныя гаспадаркі, якім спосабам яны гэтага дасягнулі, а гэтак і тое, да чаго трэба імкнуцца, што мажліва зрабіць для таго, каб замяніць старыя формы гаспадараньня на лепшыя. Яшчэ ў большасьці вёсак існуе дзедаўская трохпалёўка, поруч з культурным плугам рыюць глебу сахой. Трэба паказаць на выстаўках прыкладамі выгаднасьць замены іх. Сялянедасьледчыкі падкрэсьляць гэта сваімі досьледамі. Досьледы па ўплыву на ўраджай штучнага ўгнаеньня, гатунковага насеньня, розных палепшаных спосабаў апрацоўкі глебы, кармленьне па нормах і інш., вынікі чаго маюць некаторыя з іх за некалькі год, будуць служыць яскравым прыкладам для суседзей. Выставачныя камісіі, якія павінны быць складзены загадзя, акрамя ўцягненьня большага ліку сялянства да ўдзелу ў выстаўках і загатоўкі экспанатаў, павінны наперад вызначыць лік і велічыню прэміі і паведаміць аб гэтым ўсё сялянства.

Бібліятэчак з с.-г. кніжак, гэтых дапаможнікаў у працы аграномаў, павінна быць падрыхтавана для прэміраваньня як найбольш. Трэба даць добрую мясцовую кніжку вёсцы, бо шырокая перабудова нашай сельскай гаспадаркі ўцяжаецца някультурнасьцю, адсталасьцю нашага селяніна. Адсутнасьць с.-г. ведаў—вось апора старога быту і старых форм гаспадараньня. Гэта—спадчына ад царскага часу і з гэтым трэба змагацца.

Акрамя розных экспанатаў, якія выявяць дасягненьні нашай сельскай гаспадаркі, на с.-г. выстаўцы павінны шырока праводзіцца с.-г. гутаркі і лекцыі. Не забыць наладзіць на выстаўцы справачныя сталы па пытаньнях сельскай гаспадаркі. Таксама, акрамя выстаўленьня розных машын і прыладаў, на выстаўцы павінна праводзіцца прыкладная іх праца, паказвацца догляд, разборка і складаньне машын.

У мінулым, 4—5 год назад, калі сьвята „Дзень Ураджаю“ было амаль выключным сьвятам моладзі, калі яно толькі ўводзілася ў жыцьцё а наша дзяржава толькі разгортвала свае агрыкультурныя мерапрыемствы, магло лічыцца вялікім дасягненьнем і тое, што сялянства пачынала ўводзіць травы, кораньплоды, лубін на ўгнаеньне, ці паказвала добрага жарабца, быка ці карову.

Зараз гэтага мала. Наша Савецкая аграномія налічвае ўжо добрыя шэсьць год свае працы на вёсцы і вынікі гэтай працы павінны быць большымі і больш выразнымі. Цяпер прэміруемая гаспадарка павінна паказаць, што яна, наогул, зрабіла за шэсьць—сем год, напрыклад, кармовай справы або гадоўлі і кармленьні жывёлы, машынізацыі гаспадаркі, перабудовы яе ў бок інтэнсыўнасьці, сувязі з каапэрацыяй і г. д.

У „Дзень Ураджаю“ трэба выявіць і прэміраваць:

1) Дасягненьне найбольшага ўраджаю пры шматпольлі, дзе ўжываюцца мінэральныя ўгнаеньні, торф, лубін, каапэрацыйныя машыны і г. д.

2) Найбольшыя ўдоі малака.

3) Дасягненьні вялікіх ураджаяў у садзе і гародзе.

4) Дасягненьні калектыўных гаспадарак па розных галінах гаспадаркі.

5) Лепшы спосаб пабудовы агнятрывалага будынку, сіласу, павінны быць паказаны ў мадэлях, калі няма прыкладаў ужо існуючых у раёне.

6) Шырокае выяўленьне працы с.-г. гурткоў, школ сялянскай моладзі, вясковых школ і школ сямігодак у с.-г. напрамку, машынных тарфяных і мэліярацыйных т-ваў.

Пры прэміраваньні трэба імкнуцца не зрабіць памылкі, як гэта падчас здаралася раней; трэба каб ні ў якім разе прэмія не папала кулацкай гаспадарцы.

Пачэснае месца павінны займаць на выстаўках аддзелы Озет. Сваімі экспанатамі яны павінны выявіць стан і перспэктывы разьвіцьця яўрэйскага земляробства.



С.-г. выстаўка ў Пухавіцкім раёне (Падблонь).

У сьвята „Дзень Ураджаю“ будзе праведена віншаваньне сялян з бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак, за іх дасягненьні ў сваёй гаспадарцы.

Усе дасягненьні гэтага году неабходна зьвязваць і ставіць побач з тым, што было 6—7 год назад, а то і з даваенным часам.

Для сельскай гаспадаркі ня бывае такога другога дню, як „Дзень Ураджаю“, калі можна так шырока і яскрава выявіць яе рост і дасягненьні. Вось чаму ўся падрыхтоўка і арганізацыя „Дню Ураджаю“ ў гэтым годзе патрабуе асаблівай увагі.

Шэфскія арганізацыі, чырвонаармейскія, прафсаюзныя, асабліва сэкцыі аграпрацаўнікоў, Акружкомы і Райкомы КПБ, ЛКСМ, Палітасьветныя ўстановы павінны прыняць удзел у арганізацыі і правядзеньні сьвята. У такім разе будуць выкананы заветы нашага правадыра, першага ініцыятара гэтага грамадзянскага сьвята У. І. Леніна, у сэнсе сувязі гораду з вёскай.

**Саф. Хоміч**

# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

## Асеньняя апрацоўка глебы.

Звычайна, ва ўмовах сялянскае гаспадаркі Беларусі, палеткі пасьля прыборкі азімых і яравых культур выкарыстоўваюцца для пасьбы жывёлы да самай глыбокай восені. Гэта традыцыя ўжылася да такой ступені, што яшчэ і ў сучасны пярыяд ёсьць гаспадары, якія ў час прыборкі адзначаных культур, бываюць задаволены тым, што яны маюць траву на сваіх палетках; але адначасова, гэтыя-ж гаспадары тым больш зайздруюць таму суседу, у якога лепшы ўраджай.

Па нашых назіраньнях трэба адзначыць, што тут заўсёды існуе адваротная залежнасьць—чым больш травы, а гэта значыць, чым большая засьмечанасьць палёў, тым меншы ураджай. Больш гэтага, мы пераканаліся ў тым, што кармовая вартасьць жніўя, нават найбольш засьмечаных палеткаў—надзвычайна нізкая, бо пасьля таго, як пачне пасьвіцца жывёла на гэтых палетках, яна пад'ядае ня больш як у працягу 2-3 дзён, рэшту-ж пасьбішчнага пярыяду жывёла проста толькі спацыруе па полі, утаптвае яго і распылкоўвае глебу. Нізкая кармовая вартасьць жніўя тлумачыцца тым, што большая частка сарнін, якія складаюць травастой жніўя, да часу прыборкі збожжа—пасьпяваюць, робяцца дравяністымі, верхняя частка іх з пасьпеўшым насеньнем прыбіраецца разам са збожжам (якія разам з гноем і ў выпадку дрэннай ачысткі насеньня трапляюць ізноў у поле) і такім чынам астатняя частка сарнін (кармовая база жніўя) набывае якасьці звычайнай збожжавай саломы. Вось і ўся тая карысьць, якую селянін мае ад пасьбы жывёлы на жніўі пасьля прыборкі азімых і яравых культур. Залежна ад гэтага апрацоўка глебы пад пасевы наступных культур будучага году пачынаецца вясною.

Дзеля таго, каб убачыць, якую-ж супраўды селянін мае карысьць у выніку адзначанае традыцыі, неабходна зьвярнуцца да матар'ялаў сельска-гаспадарчых навукова-дасьледчых устаноў, якія працуюць адпаведнымі мэтадамі па адшуканьні шляхоў рацыянальнага вядзеньня сельскае гаспадаркі. Так, напрыклад, па дадзеных Менскай Расьлінаводнай Дасьледчай Станцыі, калі замест пасьбы жывёлы, зараз-жа пасьля прыборкі азімага жыта зрабіць лушчэньне 4-х лямешным, альбо 2-х лямешным плугам (г. зн. ня глыбокая ворыва), а ўвосень больш глыбокае ворыва і вясной зрабіць адну пераворку, дык у параўнаньні з адным васеньнім ворывам (бяз лушчэньня) і веснавой пераворкай, поле надзвычайна добра вызваляецца ад сарнін, глеба робіцца пульхнай, у выніку чаго ўраджай пасеяннага аўса і ў наступны год віка-аусянай мешанкі на сена, альбо бульбы, ці нават кармовых караньплодаў—павялічваецца да 20—25 проц. Такое павялічэньне ўраджаю магчыма атрымоўваць у працягу 2-х год па адзначаных культурах толькі ад аднаго, даволі няскладанага, прыёму апрацоўкі глебы—лушчэньня, якое робіцца зараз-жа пасьля прыборкі азімага жыта, альбо азімай пшаніцы.

У тым выпадку, калі лушчэньне азімага жніўя ня зроблена, а толькі адно васеньняе ворыва і веснавая пераворка, дык у параўнаньні з во-

рывам увесну і веснавой пераворкай ураджай адзначаных намі культур павялічваецца да 20—15 проц.

З пытаньнем апрацоўкі глебы пасьля азімага жыта, павінна быць шчыльна ўвязана і пытаньне ўгнаеньня, бо ў сыстэме палявой гаспадаркі Беларусі, звычайна, пасьля жыта ідуць прапашныя культуры—бульба і кармовыя караньплоды, пад якія заусёды, і зусім правідлова, уносіцца гной. Але, прымаючы пад увагу надзвычайна вялікую каштоўнасьць гною ў нашай сельскай гаспадарцы, паўстане пытаньне аб часе і спосабе яго ўнясеньня дзеля найбольш рацыянальнага выкарыстоўваньня. Вынікі досьледаў Менскай Расьлінаводнай Дасьледчай Станцыі пацьвердзілі, што калі прыняць норму гною ў 360 цэнтнераў на гэктар (2400 пуд. на дзесяціну), унесьці вясной і атрыманы па ім ураджай прапашных культур на сугліністым тыпу глебы прыняць за сто, дык па такой самай норме гною, але калі яна поўнасьцю ўносіцца ўвосень, ураджай павялічваецца да 25 проц., а калі палова гэтае нормы ўносіцца таксама ўвосень, а палова вясной, дык ураджай павялічваецца да 45 проц. Такім чынам і вынікі досьледаў па вырашэньню спосабаў найбольш рацыянальнага выкарыстоўваньня гною, таксама яскрава падкрэсьліваюць карыснае значэньне восеньняй апрацоўкі глебы.

Акрамя высьвятленьня пытаньня восеньняй апрацоўкі глебы, якая вызваляецца з-пад азімых культур, мы паставілі мэту высьвятліць значэньне восеньняе апрацоўкі глебы, якая вызваляецца з-пад яравых культур. У сучасны пярыяд разьвіцьця сельскае гаспадаркі Беларусі, яравыя культуры ў сыстэме палявой гаспадаркі займаюць розныя месцы, з аднаго боку—яны займаюць месца для пасеву шматгадовых кармовых траў—канюшыны, і, з другога, яны заканчваюць севазварот і гэта плошча на будучы год выкарыстоўваецца як папар для пасьбы жывёлы і пасеў азімых, альбо паступае пад т. зв. занятыя папары—пад культуры: лубін на зялёнае ўгнаеньне; віка-аўсяную ці іншую мяшанку на зялёны корм, альбо сена; пад грэчку на насеньне; бульбу скарасьпелку і магчыма іншыя. Адзначанае з відавочнасьцю паказвае, што калі плошча з-пад яравых культур паступае пад канюшыну, альбо пад папары для пасьбы жывёлы, дык казаць аб яе восеньняй апрацоўцы ня прыходзіцца, асабліва калі яна выкарыстоўваецца апошняй формай, бо ў сучасны пярыяд яна ні ў якай ступені не адпавядае эканамічнаму стану сельскае гаспадаркі Беларусі. Магчыма казаць аб восеньняй апрацоўцы глебы толькі тых плошчаў, якія паступаюць пад так званыя занятыя папары. Вырашэньне пытаньняў значэньня восеньняй апрацоўкі глебы пад занятыя папары займаюцца шмат якія дасьледчыя ўстановы, якія працуюць у блізкіх да Беларусі натуральна-гістарычных умовах. Пры гэтым усе яны прыходзяць да аднолькавага выніку, што ў тых гаспадарках, дзе ужываюцца, альбо павінны ўжывацца занятыя папары, рабіць восеньняе ворыва глебы, пасьля прыборкі яравых, ня толькі надзвычайна карысна, але нават цяжка памысьліць існаваньне занятых папараў бяз восеньняга ворыва глебы пад іх.

З усяго вышэй адзначанага мы прыходзім да наступных вынікаў:

1. Пасьба жывелы па жніўі з-пад азімых і яравых культур, у пярыяд ад прыборкі іх і да глыбокай восені, ня толькі ня мае карысьці, але дае гаспадарцы вельмі значныя страты.

2. Лушчэньне і восеньняе ворыва азімага і яравога жніўя вельмі значна павялічвае ўраджайнасьць і прыбытковасьць сельскае гаспадаркі.

**А. Прахараў.**

(Менская Расьлінаводная Дасьледчая Станцыя).

# Трэба гадаваць насеньне ў сваёй гаспадарцы.

Як у мінулыя гады, так і цяпер многія лічаць, што ўсё сваё—дрэннае, а ўсё што атрымліваецца з-за межаў—добрае. Быў такі выпадак, калі адзін гаспадар з Яраслаўскай губэрні выгадаваў вельмі добрае насеньне гародніх расьлін. Павёз ён іх прадаваць у Маскву, але там яго насеньне ня купілі. У Маскве тлумачылі гэта тым, што насеньне дрэннае. Думаў-думаў гаспадар як яму быць з насеньнем, ды і паслаў яго ў Нямеччыну. Адтуль ён хутка атрымаў паведамленьне, што яго насеньне купляюць і зараз-жа прыслалі ў задатак грошы. Такім чынам у яго нямецкія гандляры закупілі ўсё насеньне. Потым тое самае насеньне, толькі ў замежных мяшкох, прадалі нам, узяўшы за яго вельмі добрыя грошы.

Замежнае насеньне часта бывае і заляжалае, і нячыста гатунковае, і галоўнае, яно дорага каштуе. Сёлета да купленых сталовых буракоў (сорт эгіпэцкі) было падмешана 20 % буракоў паўцукровых. Гэтае насеньне было атрымана ад Маскоўскага Аграбюро. Тое-ж самае было і з капустай, з морквай, усё гэтае насеньне было ня чыстагатунковае. Гэта тлумачыцца тым, што пры малацьбе, ачыстцы і разважваньні насеньня працуюць не асьцярожна і засьмячаюць адзін гатунак другім.

Трэба запамятаць, што сваё насеньне, заўсёды лепшае насеньне, а таму насеньне тых расьлін, якія могуць пасьпець у нашых кліматычных умовах, трэба гадаваць у сваіх гаспадарках. Капуста, бручка, турнэпс, рэдзька, морква, гуркі пасьпяваюць па ўсёй Беларусі, а буракі ў паўднёвай частцы. У заходняй—калі лета халоднае і са значнымі выпадкамі, дык насеньне буракоў можа і не пасьпець.

Каб атрымаць сваё насеньне, трэба ўвосень адабраць матачнікі, гэта і можна зрабіць у сучасны момант. Адбіраць трэба толькі тыпічныя экзэмпляры таго гатунку, які гаспадар хоча гадаваць. Для патрэбы свае гаспадаркі належыць адабраць 20-30 качаноў капусты, 100-200 штук караньплодаў. Ад гэтых матачнікаў гаспадар атрымае 1$^1/_2$—2$^1/_2$ фунты насеньня капусты і 10-20 фунт. насеньня караньплодаў. Качаны капусты трэба выкапаць з каранём і захаваць на зіму ў склеп. У склепе качаны ставяць старчма, каб яны не датыкаліся адзін да другога, а карані засыпаюць пяском. Калі гаспадару не магчыма захаваць качаны, дык тады можна заставіць храпкі з каранямі (качарыжкі). У такім разе трэба абрэзаць качан так, каб на храпках засталося лісьце на 1—1$^1/_2$ вярш. і верхняя пупышка. Храпкі ставяцца ў пясок так, як і качаны. Караньплоды трэба асьцярожна выбраць з град, ачысьціць ад зямлі тупым бокам нажа, адабраць здаровыя, не папсаваныя і тыпічныя экзэмпляры, абрэзаць бацьвіньне так, каб не папсаваць галоўку караньплода. Можна заставіць чаранкі ад лісьця на чвэрць, ці на поўвяршка. Іх трэба таксама, як і капусту, захоўваць у склепе ў пяску. Далей застаецца толькі догляд пры захаваньні, напрыклад, цяплыня ў склепе павінна быць $^1/_2$—1 градус. Калі цяплыня будзе вышэй, склеп трэба праветрываць. Вось і ўся праца, якую павінен зрабіць гаспадар увосень, каб вясной мець свае матачнікі для гадоўлі насеньня.

Адбірайце-ж, сяляне, загатаўляйце добрай якасьці насеньнікі і ў належнай колькасьці з свайго гароду ўвосень. Калі свае гародніны добрае няма, дык імкнецеся дастаць у суседзяй, альбо на Дасьледчай Станцыі. На Дасьледчай Станцыі можна дастаць і чыстагатунковых семянікоў.

(Віцебская Дасьледчая Станцыя). **В. Чэмелаў.**




## Што дае нам зяблевае ворыва.

Ворыва глебы на зяб у нашай гаспадарцы ўжываецца з 1924 году (гл. арт. № 10 „Плуга“ за 1927 г.). Раньняе ворыва іржышча дало мне магчымасьць гэтым звычайным мерапрыемствам павысіць ураджаі бульбы, аўса і г. д. Пры чым заўважана, што на нізкіх мясцох ворыва на зяб не апраўдвала сябе за ўсе гады маіх досьледаў. Так у 1927 годзе на зяб быў узораны кавалак у чвэрць гэктару на нізкай мясцовасьці, дзе ўхіл вельмі нязначны і спад вады ўвесну вытвараецца крайне паволі. На гэтым кавалку пасеяўся авёс, які быў вельмі нізкай якасьці. На вышэйшых-жа кавалках, дзе ёсьць спад вады, ураджай аўса і бульбы характарызуецца так:

| НАЗВА РАСЬЛІН | Без зябл ворыва на дзес. | Пры зябл. ворыве |
|---|---|---|
| Бульба . . . . . | 900 пуд. | 1050 пуд. |
| Авёс . . . . . | 34 „ | 39 „ |

Праўда, тут магчыма спрыяла надвор'е ў 1927 г., але па якасьці і ўгноенасьці зямля была аднолькавая, бульба гатунку „вінакурка“ (чырвоная), авёс—„шацкі“. І гэта заўважана мной ня толькі на пасеве бульбы і аўса, а і на іншых зернявых расьлінах, як ячмень, пшаніца, грэчка і г. д. Агароды таксама даюць вышэйшы ўраджай пры ворыве на зіму. У нас кожны год пад восень набіраецца 5-10 вазоў гною, які і вывозіцца на гарод і ўвосень зворваецца.

Наогул, зяблевае ворыва дало мне значнае падвышэньне ўраджаю.

Раю сялянам Чачэвікага раёну, зрабіць параўнаньне з розным ворывам, вясной і ўвосень пад ярыну, а аб выніках напісаць у „Плуг“.

Селянін **Я. М. Савіцкі.**

(в. Шмакі, Чачэвіцк. р., Магіл. акр.)

---

## Угнойваньне поля ўвосень пад ярыну.

Ад карыснасьці ўгнойваньня поля ўвосень я ўпэўніўся з наступнага досьледу. У 1926 г., як толькі зжалі жыта, поле зараз-жа было заворана на глыбіню ад $1^1/_2$ да 2 вяршкоў. Праз некаторы час заворанае поле было выскараджана.

У кастрычніку м-цы гэты кавалак быў разьбіты на 4 часткі. На адзін з іх быў навожан гной па разьліку 1200 пуд. на дзес. і заараўся значна глыбей. У такім выглядзе поле засталося да вясны.

Вясной, калі глеба абсохла, поле было паскароджана і вывезен гной на той кавалак, на які быў навожаны ўвосень яшчэ дадаткова з разьліку 1200 п. на дзес. Адначасова і на другі кавалак быў вывезен гной па разьліку 2400 пуд. на дзес. На ўсіх 4-х кавалках дасьледчага вўчастку была пасаджана бульба

У часе пасадкі бульбы 3-ці кавалак угнойваўся попелам. Попел сыпаўся ў тую баразну, дзе садзілася бульба, кучкамі на кожную бульбіну, з разьлікам 80 пуд. на дзес. 4-ы кавалак быў на тым самым гнаі, што і жыта, дадаткова нічым не ўгнойваўся.

Ураджай атрыман наступны:

Першы кавалак, які ўгнойваўся ўвосень і вясной, даў ураджай 1772 пуд. на дзес.

Кавалак, які ўгнойваўся толькі вясной, даў—1625 пуд.

3-ці кавалак—з попелам—1620 пуд. і чацьвёрты кавалак, на жытнім гнаі—1305 пуд.

Такім чынам мы бачым, што выгадней вазіць гной увосень. Сёлетняга году я таксама прыгатаваў дасьледчыя дзялянкі, але ўжо на канюшынішчы.

**Ул. Юркевіч.**

(В. Горкі, Чэрвенскі р.).

---

# Гаспадарскія памылкі ў скарыстаньні бульбянішча.

Заўсёды нашы вясковыя гаспадары засяваюць жыта на самай добрай і ўгноенай зямлі. Такое-ж поле, як бульбянішча, дзе таксама частка сеюць азіміну, павінна зьвярнуць на сябе ўвагу ў гэтым пытаньні.

Ня ведаю як дзе, а ў нашым раёне, па майму досьледу, пасеў жыта па бульбянішчу зьяўляецца памылкай. Па-першае, трэба адзначыць тое, што якая-б то бульба ня была (акрамя скарасьпелкі) яна мусіць капацца ў позьнюю восень, да канца кастрычніка, аж да так званых „пакроў“. Жыта-ж, як вядома і самім гаспадаром, ды і навука тое-ж кажа, трэба засяваць не пазьней 15 верасьня. Вось тут і паўстае пытаньне: ці ёсьць мэтазгодным поле-бульбянішча скарыстоўваць пад жыта.

Па маіх наглядах над жытам, пасеяным на бульбянішчы ў вёсцы Сьвятое, вызначылася, што ўзышло яго 25-35%, больш-жа паловы насеньня загінула. Ды і тое, што ўзышло чуць паднялося, зусім не раскусьцілася і так пайшло пад сьнег. Ну дзе тут з яго будзе карысьць! Акрамя таго, вспульхненую апрацоўкай глебу, пры доглядзе і выкапваньні бульбы, веснавая вада задратоўвае глебу, так, што яна сплываецца ў цэглу. Што хочаш рабі, а тут ужо вялікага прыбытку не чакай. Такім чынам карысьці ад бульбянішча пры пасеве жытам—надта мала.

Я зрабіў нагляданьні над паяўленьнем каласоў жыта, дык атрымаліся наступныя вынікі:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| На жыце пасеяным у жніўні | (30) | паяўляюцца калосься | 5—10 | чэрвеня |
| „ „ верасьні | (20) | „ „ | 10—16 | „ |
| „ „ кастрычніку | (20) | „ „ | 20 | „ |

Відавочна, што позна пасеянае жыта і пазьней сьпее. Я лічу, што бульбянішча гатаваць пад пасеў жыта ня варта. Бульбянішча—рэч

добрая, бо яно ўжо мае добра пульхную глебу і больш-менш угноена, таму яго трэба скарыстоўваць пад яравыя культуры; гэта будзе больш прыстасаваным да ўмоў росту збажыны. Акрамя таго, калі бульбянішча знаходзіцца ў добрым месцы, то яго трэба заняць караньплодамі, дадаўшы ў якасьці ўгнаеньня мінэральныя парашкі.

Я раю, на падставе ўласнага нагляданьня, поле з-пад бульбянішча пад засеў жыта не скарыстоўваць, бо ад гэтага мы маем толькі страты, а лепш ужываць яго пад якое-небудзь яравое.

Сел.-Дасьл. **А. Карунчык.**

---

# Мае дасягненьні.

Па прапанове Дасьледчай Станцыі мною быў закладзен досьлед з караньплодамі.

Досьлед быў закладзен падвойны; кожная дзялянка была па 24 квадратовых сажні. Пасеў і пасадка ўсіх караньплодаў праводзіліся на роўнай зямлі ў радочкі. Адлегласьць паміж радкоў была 4 вярш., а ў радку—8 вярш.

Пасеяны буракі 18/V, пасадка флянсамі была зроблена 15/VI, пасеў турнэпсу 18/V, пасадка бруквы 15/VI. Палоў я пасеў тры разы і два разы было зроблена прарываньне.

Ураджай паказваю ў наступнай табліцы:

| №№ дзял. | Чым занята дзялянка і колькасьць угнаеньня на дзялянку | Ураджай з дзял. у пуд. | Ураджай пры пераліку на дзес. у пуд. |
|---|---|---|---|
| 1 | Пасеў буракоў па гнаі 30 п. на дзял. . . . | 20 | 2000 |
| 2 | Пасеў буракоў па гнаі 30 п. і 5 ф. калійнай солі | 23 | 2300 |
| 3 | Пасадка буракоў па гнаі 30 пуд. . . . . . | 25 | 2500 |
| 4 | Пасадка буракоў па гнаі 30 п. 5 ф. калія . . | 30 | 3000 |
| 5 | Пасеў турнэпсу па гнаі 30 пуд. . . . . . | 25 | 2500 |
| 6 | Пасеў турнэпсу па гнаі 30 п. і 5 ф. калія . . | 30 | 3000 |
| 7 | Пасадка бруквы па гнаі 30 пуд. . . . . . | 28 | 2800 |
| 8 | Пасадка бруквы па гнаі 30 п. 5 ф. калія . . | 33 | 3300 |

Брюква і турнэпс былі моцна паедзены блыхой і чарвяком, але апрыскваньнем іх удалося адратаваць.

*Вынікі досьледу.* Як відаць з лічбаў ураджаю, пасадка буракоў і бруквы дае большы ўраджай, чым пасеў, пудоў на 10 з дзялянкі.

Пры гэтым трэба адзначыць, што пасадка і пасеў буракоў на роўнай паверхні (асабліва ў сухі год) дае большы ўраджай, чым на гранках. У мяне было пасеяна крыху кармовых буракоў у гародзе, дзе гной кладзецца кожны год, але буракі былі пасеяны на гранках і вырасьлі амаль ня горш, як на дасьледчым вучастку ў полі. Што-ж датычыцца дасьледчага вучастку, то навокал яго быў пасеян авёс, які ня ўдаўся і даў ураджай прыблізна 25—30 пуд. з дзесяціны.

Цяпер адзначу, якое значэньне мае гэты досьлед для ваколічнага насельніцтва. Спачатку, калі праводзілася праца па досьледу (і пакуль не падрасьлі караньплоды) усе грамадзяне сьмяяліся і казалі: „вось якія дурні, няма ім чаго рабіць, дык яны пачалі капацца на пусташы, дзе нават авёс не расьце“. Праўда, у суседзяй нават у гародзе ўсе караньплоды прапалі, а ў нас, калі мы не пашкадавалі працы, якая праводзілася па ўсіх правілах, дык і на полі яны добра вырасьлі. І як толькі пайшлі дажджы, то караньплоды падняліся і ўсе сяляне бачачы з дарогі (дасьледчы вучастак быў каля дарогі) прыгожыя радочкі з караньплодамі, заходзілі запытаць, як і што вы тут рабілі. Прыходзілася даваць тлумачэньні амаль што ня кожны дзень і я з вялікай прыемнасьцю выконваў гэты абавязак. Аб караньплодах да часу майго досьледу ў Крупскім раёне мала хто і ведаў, амаль што зусім іх ня было і таму сяляне глядзелі на гэта, як на дзіва і казалі, што абавязкова завядуць іх у сябе. І праўду кажуць людзі, што ня сказам, а паказам можна правесьці ўсе найлепшыя мерапрыемствы ў гаспадарцы.

Сел.-дасьледчык **В. Францкевіч**.

(Хут. Новы Засьценак, Крупскага р.).

---

# Ці шкодзіць пасеву трэцяя квадра м-ца, трэці тыдзень і інш.

*(Аб вясковых забабонах).*

У нашай мясцовасьці сяляне вельмі пільнуюць трэцяй квадры месяца: на тым тыдні, галоўным чынам на трэці дзень, а таксама і ў панядзелак крыжавога тыдню, ніколі не распачынаюць ніякай працы на полі: возкі гною, ворыва, сяўбы і г. д., кажучы, што ўсёроўна ніякай карысьці ад працы ў гэты час ня будзе, толькі глебу сапсуеш, што потым тры гады на тым месцы нічога радзіць ня будзе. Праз гэта часта ўпускаецца спрыяючы тэрмін для працы і ў выніку атрымліваецца зьмяншэньне ўраджаю.

Я-ж 10 год як пачаў гаспадарыць, дык ніколі не разьбіраюся ні з квадрай ні з днём, калі час і пара тады ару і сею. І ня гледзячы на гэта, усё ў мяне добра расьце. Ня раз чуў лаянкі ад суседзяй, якія казалі „чары ведае, з нячыстай сілай знаём“. А я маючы 3½ дзес. пахаці, сваечасова добра яе апрацоўваю, гной вывожу, ару і засяваю ў пару, закладваю дасьледчыя вучасткі па парадах агранома—вось тут і ўсе чары.

І вось які выпадак быў у мяне з гэтым трэцім днём і крыжавым панядзелкам. Выехаў я ў поле араць папар. Мне суседзі, Язэп і інш. і кажуць: „ці табе дню ня было, апрача панядзелка пачынаць на трэці дзень трэцяй квадры, ніхто век не пачынае ў гэты дзень“. Я адказаў, што неабходна спрабаваць. Пагода была вельмі добрая, узораная ральля

падсохла і я яе потым добра выскарадзіў. Язэп чакаў пакуль маладзік абмыецца, а ральля ў яго зарасла травой, а пагэтаму кепска выскарадзілася.

Перад пасевам жыта раскідаў на гэтым вучастку попел па разьліку 1 пуд попелу на 1 пуд жыта. Суседзі перасьцерагалі ад пасеву попелу, кажучы, што ён пераесьць зерня і частка насеньня загіне. Але гэтага не здарылася, усходы былі добрыя. Пасеяў ачышчаным, гатунковым жытам (Іванаўскім) па разьліку 8 пуд. на дзес. і стаў чакаць вынікаў. Рунь была ня вельмі вялікая. Вясной, як толькі зямля прачэрствела, я жыта паскародзіў. Пакуль жыта ўзяло моц, палоска мая выглядала чорнай супроць суседніх. Але ў далейшым з аднаго каліва рабіўся куст з 5—8 сьцяблоў. Колас таксама быў добры. Ураджай у пераліку на дзес. быў 86 пуд.

Язэп-жа клаў і ў 2 разы больш гною, а ўраджай атрымаў 60 п. з дзес.

Цяпер у нашай вёсцы хоць і ідуць яшчэ часта спрэчкі аб ўплыве месяца на ўраджай, аб тэрміне, калі класьці гной, калі араць папар і г. д., але патроху і суседзі пачынаюць забываць розныя забабоны.

Селькор-дасьледчык **А. Акшэўскі.**

(Талачынскі р., Аршаншчына).

---

# Бульбоўнік—дапамога сену.

Шмат гаспадароў не зварочваюць увагі на бульбоўнік, між тым з яго можна атрымаць карысьць.

Гаспадары-бедднякі гаруюць вясною бяз сена, а бульбоўнік затаптваецца нагамі ў час капаньня бульбы, або і зусім спальваецца. У мінулыя гады я таксама рабіў, але ў 1926 годзе мне аграном параіў, „хоць-бы“, кажа, „ты яго ў кучу сабраў, ды папрабаваў вясною даць каровам“.

Я так і зрабіў. У 1926 г. крыху прывёз для подсьцілкі ў хлеў, а рэшту ўскінуў на вышкі, няхай, думаю, ляжыць, саломы шкода, дык хоць ад яго цяплей у хляве будзе. Прычакаўшы вясны, калі сена стала скупа, папрабаваў даць каровам. І праўда—каровы елі надта добра. Цяпер я кожны год увесь бульбоўнік зьбіраю і кладу на вышкі, а вясною і зімою даю каровам. Прыгатаўляць яго проста: скасіць перад самым капаньнем бульбы, або крыху раней.

Можна таксама і не касіць, а зьбіраць пасьля выворваньня бульбы, але трэба дасканала вытрасьці ад зямлі, якая трымаецца на каранёх. Пасьля скласьці ў кучу, каб як кажуць „выбалеў“, правяў, а потым вазіць дамоў.

Скармліваць каровам можна проста, але лепш сьсекчы, або парэзаць на сечку (толькі ня надта дробную) і абмешваць вобмешкаю, тады ён заменіць любое сена.

Раю кожнаму гаспадару гэтак скарыстоўваць бульбоўнік. Калі хто ведае лепшы спосаб падрыхтоўкі бульбоўніку, дык няхай падзеліцца ў часопісі „Плуг“.

Сел. **Г. Шумілаў.**

(Карма, Магілёуск. акр.).

---

# Як захаваць бацьвіньне кораньплодаў і правільна яго скарміць скацінаю.

Сіласаваньне — найбольш пашыраны спосаб захаваньня зялёнай масы кораньплодаў. Яго заўсёды раяць, як аграномы, так і розныя с.-г. часопісі. Але гэты спосаб патрабуе і сродкаў і працы. Ня ў кожнага гаспадара ёсьць магчымасьць зрабіць гэта. Апрача таго, сіласаваным кормам карміць скаціну трэба з вялікай асьцярогай, бо ёсьць выпадкі, калі скаціна хварэла ад няўмелага ўжываньня сіласаванага корму.

Я ўжо доўгі час займаюся разьвядзеньнем кораньплодаў, пераспрабаваў шмат спосабаў, як захоўваць бацьвіньне і лічу, што бульбоўнік лепш усяго скармліваць скаціне сьвежым, а бацьвіньне іншых кораньплодаў магчыма захаваць на больш позьні час.

Тыдні за два да прыборкі бульбы касой з граблямі я зразаю патроху бульбоўнік і кармлю ім скаціну. Але бульбяное бацьвіньне трымае ў сабе некаторыя атрутныя матэрыі і вось, каб зьнішчыць шкодны ўплыў бульбоўніка на жывёлу, я мяшаю яго з морквай ці якімі іншымі кораньплодамі, якія прарываю пры поліве. Калі-ж даваць скаціне толькі адзін бульбоўнік, дык гэта можа дрэнна сказацца на яе здароўі.

Усё іншае бацьвіньне я хаваю так: абрэзаўшы кораньплоды, падвешваю ўсё бацьвіньне на козлах (трыногах), як канюшыну. У кучках яно ня прэе, як гэта бывае з пакінутай на зямлі травою, трохі падсыхае, але не засыхае зусім, як сена. Каб бацьвіньне не мачылі дажджы пакрываю кучкі кулявою саломаю. У такім стане яно ў мяне праляжала да 1-га сьнежаня, але я ўпэўнен, што бацьвіньне морквы можа праляжаць і да студзеня м-ца, ня трацячы сваёй спажыўнасьці. Нават лепш, што бацьвіньне трохі падсыхае, бо пры гэтым яно можа замяніць сена. На марозе бацьвіньне не замярзае, бо ў ім застаецца вельмі мала вільгаці.

Я лічу, што гэты спосаб захаваньня бацьвіньня кораньплодаў, выгадны для сялян. Няма такой гаспадаркі, у якой бы за 2-3 м-цы не скармілі скацінаю ўсяго бацьвіньня, хаця-б яго было і вельмі многа, а на такі час яго сьмела можна захаваць гэтакім спосабам.

Селянін-дасьледчык Н. Зьвераў.

# Мой досьлед з торфам.

У мяне $1^1/_2$ дзес. зямлі і 1 дзесяціна балотнае сенажаці. Каб з гэтага кавалку зямлі атрымаць ураджай, які-б задаволіў хлебам сям'ю, трэба глебу добра ўгноіць. Але дзе ўзяць гною, гаспадарачы на $1^1/_2$ дзес. Гэтае пытаньне мне памагла вырашыць часопісь „Плуг“. Праз яе я даведаўся, што добра падсьцілаць жывёле высушаны торф. Вось летам 1926 г. я накапаў на балоце торфу, падвёз яго да хлява і зваліў у няшырокі вал.

У мяне дзьве каровы і стаяць яны ў хляве ў паасобных загародках на драўлянай падлозе. Увосень, калі ўжо каровы на кароткі час хадзілі ў поле, я выбраў з хлява гной і ў перагародку аднэй карове падаслаў два вазы торфу. Пад другую карову я падаслаў жытняй

саломы. Праз 5 дзён у першай каровы ўжо зрабілася гразь, але я дачакаў роўна 7 дзён і тады вывез гной з хлява, зложыў у круглую кучу і накрыў саломай і дошкамі, каб яго не прамочваў дождж. Другую-ж карову я падсьцілаў саломай да трох тыдняў. У гэты час я карміў кароў бацьвіньнем, бульбай і буракамі і мне прышлося больш слаць саломы, чым тады, калі я даваў ім толькі трушанку. Праз тры тыдні я з-пад гэтай каровы таксама вывез гной і зложыўшы яго накрыў, як і першы. Гной з-пад абедзьвюх кароў вымяраў выважанай скрынкай. Усяго тарфянога гною было 61 пуд 13 ф., саломістага-ж гною, з-пад другой каровы—28 п. 32 ф. Такім чынам, па лічбам майго досьледу я мог-бы мець за год ад аднэй каровы саломістага гною 499 п. 8 ф., а тарфянога 3188 п. 32 ф. Але такая вялікая розьніца прымушала мяне думаць, што тарфяны гной ня будзе пажыўны для расьлін, бо на 28 пудох саломістага гною карова стаяла тры тыдні, а на 61 пудзе тарфянога—толькі адзін тыдзень. Такім чынам у вадным пудзе тарфянога гною калу, па маім падлікам, было ў $6^1/_2$ разоў менш, як у пудзе саломістага.

З мэтай выяўленьня спажыўнасьці для расьлін тарфянога гною, параўнальна з саломеным, вясной 1927 г. я зрабіў досьлед на сваім гародзе: адвёў вучастак зямлі, падзяліў яго на 10 дзялянак, потым кожную дзялянку, апрача кантрольнай, угноіў роўнай колькасьцю гною па вазе. Адну дзялянку ўгнойваў торфам, а другую, побач, саломістым гноем. Пасьля гэтага засеяў адну палову кожнай дзялянкі кармовай зялёнагаловай морквай, а другую кармовымі обендорфскімі буракамі. Сеяў насеньне радкамі: морквы на кожнай дзялянцы 6 радкоў, а буракоў—4. Догляд за ўсімі дзялянкамі быў аднолькавы.

Ураджай морквы ня так адчуваўся на павялічэньне ўгнаеньня, як буракі. Апрача таго, усюды морква дала большы ўраджай па саломістым гнаі, між тым як буракі далі большы ўраджай на тарфяным гнаі. З прычыны таго, што зямля ў мяне пяскаватая, а падглеба-жоўты пясок, у мяне зьяўляецца думка, што буракі лепш радзілі па тарфяному гною ў выпадку іх большай чуласьці да засухі. Торф заўсёды трымае ў сабе больш вільгаці, чым саломісты гной, які скора высыхае ў пясчанай глебе. Розьніца адозвы буракоў на павялічэньне ўгнаеньня вельмі вялікая. Морква дала ў два разы большы ўраджай супроць кантрольнай дзялянкі, а буракі пры тых-жа ўмовах у тры разы.

Гэты мой досьлед пераканаў мяне ў тым, што чым больш класьці гною пад караньплоды, асабліва пад буракі, тым таньней абойдуцца яны для сябе. Цяпер я буду загатаўляць тарфянога подсьцілу сколькі змагу.

Сьцялю я торф у хляве адразу вяршкоў на 4-6 таўшчынёй, тады паверсе патрушу саломы і ўжо ў кароў можа быць суха тыдні тры, толькі трэба зацярушваць па версе кал, бо яго за тры тыдні значна зьбярэцца.

Раю кажнаму гаспадару загатаўляць тарфяны подсьціл.

Селянін К. **Мяхедка.**

(м. Заслаўе, Менскай акр.).




# Пабудова агнятрывалых будынкаў.

*Каб пабудаваць агнятрывалы будынак з гліны, трэба выбраць добры матар'ял.*

Агнятрывалых будынкаў з гліны маецца шмат розных канструкцый, напрыклад, гліна-гальлёвыя, саманныя (з вялікае сырцовае цэглы), плецянёвыя, вальковыя, гліналітныя і інш. На Беларусі больш усяго распаўсюджаны гліна-гальлёвыя і саманныя будынкі, а таму, мы і разгледзім, які для іх пабудовы патрэбен матар'ял.

Галоўную ўвагу трэба зьвярнуць на выбар гліны. З кепскае гліны выйдзе і кепскі будынак. Гліна павінна быць т. з. тлустая, гэта значыць каб у гліне быў невялікі процант пяску. Калі-ж будзе ўжо занадта тлустая, дык тады можна дамяшаць кастрыцы, сухога торпу ці яловых шыпуль-ігліц. Гэта дадаецца для таго, каб сьцяна не трэскалася. Але надта апясчаць гліну не патрэбна; лепш, каб забараніць сьцяну ад растрэскваньня, прыбаўляюць сечанай саломы. Калі-ж трохі і трэскаецца, дык ад гэтага бяда невялікая. Горш бывае тады, калі гліна бярэцца шчуплая (тошчая)—з вялікім процантам пяску. Таксама дрэнна, калі пры пабудове падае дождж. Ён размывае сьцены, гліна пачынае адвальвацца і даходзіць да таго, што сьцены выварачваюцца з таго боку, дзе падмочана. Пры тлустай гліне гэтага ня бывае.

Гліна гатовіцца для пабудовы гальлёвага будынку такім спосабам: перш гліна добра месіцца, перамешваецца з саломай ці інш. матар'ялам і кладзецца на сьцяну і ўтрымбоўваецца. Месіцца гліна найбольш коньмі. Для гэтага робіцца круг шырынёй 6 мэтраў (можна і больш), углубляецца ў зямлю на 0,30 мэтраў, і тады засыпаюць гліну, змочваюць вадою і ганяюць каня кругом. Калі ўжо гліна перамялася, дадаюць матар'ял для аташчэньня і зноў усё перамешваюць і тады гліна гатова, можна класьці на сьцяну. Гліна не павінна быць жыдкая, бо яе тады кепска трамбаваць. Маса павінна быць прыблізна такая, як хлебнае цеста.

Ёсьць і другі спосаб, пры якім гліна толькі што ўзятая перамешваецца на сьцяне. Шмат сялян ужо так робяць і атрымліваюць добрыя вынікі. Робіцца гэта так: перш-на-перш трэба знайсьці такую гліну, каб яна па магчымасьці падышла без усякай аташчаемасьці, бо хоць і можна на сьцяне хаты дамяшаць кастрыцы ці інш., але ўсё-ж ня так спрытна гэта зрабіць. Гліна па магчымасьці павінна быць вільготная. Дабаўляецца вада і насыпаўшы ў шчыльна зробленыя з дошчак формы сьцен, трамбуецца востраканечнай трамбоўкай. Насыпаць трэба ня больш як 9 см. (2 вяршкі). Трамбаваць трэба вельмі добра; спачатку востраканечнай трамбоўкай, а потым другі раз трэба трамбаваць трамбоўкай звычайнай.

Цяпер разгледзім, якое патрэбна гальлё. Самае добрае гальлё гэта будзе яловае. Калі няма яловага, дык тады можна ўжываць лазовае і інш. Загатаваць гальлё трэба яшчэ зімой, каб раньняй вясною яно высахла. Ні ў якім разе ня можна ляпіць сырое, бо гальлё тады будзе ў сьцяне загнівацца.

Цяпер разгледзім матар'ялы для саманных будынкаў. Самы галоўны тут матар'ял—гліна. І чым гліна для самана лепшая, тым саман палучыцца лепшы. Каб ён ня трэскаўся трэба дабаўляць больш саломы. Гліна месіцца таксама, як і для гліна-гальлёвых будынкаў. Карысна для самана, як можна найгусьцей рабіць масу. Колькі трэба дабаўляць саломы, ня бачыўшы з якой гліны робіцца саман—сказаць нельга. Самы добры спосаб для вырашэньня, гэта зрабіць пробны саман. Для гэтай мэты трэба зрабіць 3-4 саманіны з рознай колькасьцю саломы, $^1/_5$ па аб'ёму, $^1/_{10}$, $^1/_{15}$ і $^1/_{20}$. Калі гэтыя саманы высахлі тады будзем класьці тую частку саломы, пры якой атрымаўся самы лепшы саман. Пры выбары гліны для самана трэба вельмі асьцярожна адносіцца, бо калі гліна будзе тошчая, то саман будзе сам па сабе кепскі, ён будзе размывацца дажджом. Узнаць-жа неразмакаемасьць можна зрабіўшы пробныя кірпічыны з розных глін і тая, якая прабудзе больш за ўсіх у вадзе і не расплывецца, і будзе самая лепшая гліна.

Я. Талуціс.

(Віцебск. АКРЗА).

---

# Як самому зрабіць прыладу для выцеркі насеньня канюшыны.

Посьпех разьвіцьця нашае сельскае гаспадаркі залежыць, у значнай ступені, ад посьпеху разьвіцьця жывёлаводзтва. Правільнае-ж і выгаднае развіцьцё жывёлагадоўлі залежыць ад добрага вырашэньня кармовага пытаньня. Канюшына-ж у гэтай справе, як усім добра вядома і, наогул, у справе перабудовы ўсёй гаспадаркі, мае вялікае значэньне. Кожны селянін, асабліва там, дзе праведзена земляўпарадкаваньне, з вялікаю ахвотаю пасеяў-бы яе хаця і не невялічкім кавалку, але насеньня канюшыны вельмы цяжка дастаць, а калі і можна, дык па вельмі вялікай цане. Досыць адзначыць, што цана на насеньне канюшыны за апошнія гады хаця і зьменшылася, але вельмі нязначна. Так, напрыклад, у 1926 г. пуд насеньня каюшыны каштаваў 25 руб., у 1927 г.—24 руб. і сёлета—23 руб. Як бачым, памяншэньне цаны на насеньне канюшыны вельмы нязначнае, затрабаваньні-ж на яе штогодна растуць. Да гэтэга часу штогодна мы прымушаны ўвозіць канюшыну з іншых раёнаў саюзу і з-за межаў. Мала таго, купляючы па такой высокай цане насеньне, гаспадар ня ўпэўнен, што можна здабыць ад яго вялікую карысьць. Часта пападаецца насеньне мала ўсхожае, засьмечанае розным шкодным зельлем, асабліва павялікаю, або яно па свойму пахаджэньню не падыходзіць да нашых умоў. Усім добра вядома, што паўночны лазавік хаця і добра расьце, але дае ў год адзін укос грубога бьльля, а канюшына паўднёвага пахаджэньня часта не перазімоўвае і вымярзае. Усё гэта прымушае гаспадара здабываць насеньне ў сваёй гаспадарцы, пакідаючы лепшыя кавалкі канюшыны на насеньне. Але вядома, з якой цяжкасьцю здабывае селянін гэта насеньне. Пакінуўшы кавалак канюшыны на насеньне селянін потым набіраецца такога клопату з ім, што гатоў нават адцурацца ад яго.

Па-першае, у большасьці выпадкаў, галоўкі канюшыны сасморгваюцца рукамі ў мяшочкі ў час іх пасьпяваньня. Гэта праца патрабуе шмат працоўных рук, уключаючы сюды і дзіцячую працу. Потым трэба павольна гэтыя галоўкі высушыць, каб часам не запячы насеньня, як гэта часта здараецца ў неспрактыкаваных гаспадароў, якія сушаць галоўкі ў мяшкох на чаранох гарачай печы, а то засыпаюць і проста ў печ. А самае маруднае—гэта вымалаціць насеньне з галовак, вылузаць зерня з мяшочка (з мякіны), гэту работу звычайна выконвае сам гаспадар на працягу ўсёй зімы. Падсушваючы невялікія порцыі галовак на печы, ён забіраецца ў сенцы ці пад павець і пачынае таўкачом выбіваць насеньне ў ступе. Засыпаўшы 2—3 прыгаршчы галовак ён іх таўчэ больш гадзіны, бо трэба ўсе плеўкі і галоўкі перабіць, як кажуць, на нюхальную табаку, тады толькі можна адвеяць насеньне. Таўчэ-таўчэ, а як адсее, дык атрымае жменю насеньня. Абмалачваюць яшчэ і цэпам на таку, але гэта таксама марудна.

Другіх спосабаў у селяніна няма. Насеньня-цёркі, сьпяцыяльна пабудованыя для гэтае мэты машыны, з-за сваёй дарагавізны мала прасякаюць ня толькі ў паасобныя сялянскія гаспадаркі, але нават у машынныя таварыствы і пракатныя пункты. Досыць адзначыць, што замежная ручная цёрка каштуе 60—62 рублі, а расейскага вырабу, па тыпу Шэнеля—115 рублёў. Зразумелая рэч, што купляць такую машыну для невялікіх плошчаў насеннае канюшыны, мала выгадна. Вось і пакутуе селянін. А тым, каму ўжо абрыдла таўчы, пачынаюць запэўніваць і сябе і другіх, што лепш сеяць проста з мякінай, з мяшочкамі—нібы-та тады яно лепш узыходзіць і бывае больш урадліваю канюшына. Уся гэта гутарка дзеля таго, каб заспакоіць сябе і пазбавіцца ад маруднай работы, ня болей.

Між тым ёсьць мажлівасьць інакш падыйсьці да справы і ў некалькі разоў палегчыць працу па абмалоту насеньня канюшыны: трэба самому зрабіць канюшынную цёрку. Тыя, хто шырока могуць заняцца вырошчваньнем канюшыны на насеньне і маюць малатарні, могуць да малатарні сьпяцыяльна дарабляць такія кажухі, якія перацерлі-б галоўкі канюшыны, а тым, хто малатарняў ня маюць, а насеньне канюшыны ўсё-ж хочуць прасьцей здабываць, параім зрабіць простую прыладу.

Яшчэ шмат дзе ў вёсках захаваліся старыя жорны, на якіх абдзіралі крупы, або малолі муку на талакно. Вось гэтыя жорны і можна выкарыстаць для змайстраваньня канюшыннае цёркі. Трэба толькі звычайныя каменьні зьняць, а на месца іх зрабіць і паставіць дрыўляныя „каменьні“. Гэтыя „каменьні“ робяцца так: трэба адшукаць здаровую тоўстую калоду (з старое перастаяўшае елкі), адпілаваць у роўным месцы дзьве кружалкі па 3-5 вяршкоў, акуратненька іх абкругліць і абчысьціць. Кружалку для ніжняга каменю можна зрабіць танейшую—ля трох вяршкоў, а для верхняга абавязкова таўсьцей, да 5 вяр. У першай кружэлцы пракруціць дзюрку невялікую, каб прайшло верацяно жорнаў, а ў другой трэба зрабіць шырокае жорла, каб можна было адразу засыпаць прыгаршчаў дзьве галовак насеньня. Верхні бок ніжняга каменю робіцца роўным, а ніжні бок верхняга каменю, каб лепш захватываліся галоўкі між каменьняў, крышку спускаецца к жорлу. Ніжні камень нярухома замацоўваецца да дна жорнаў, а верхні павінен вісець так на верацяне, каб не дакранаўся ні адным краем да ніжняга каменю. Верацяно трэба прымайстраваць так, каб можна было ім паднімаць і апушчаць верхні камень. Каменьні,

каб яны не патрэскаліся, трэба набіць абручамі з тонкае шыны. Да абруча верхняга каменю прымацоўваецца вушка, куды ўкладваецца матавіла (палка $1^{1}/_{2}$—2 аршыны), якое ў вярху прасоўваецца ў дзірку перакладзіны над жорнамі. Вось прылада і гатова.

Галоўкі канюшыны, падсушаныя павольна, прыгаршчамі засыпаюцца ў жорла такіх жоран і рукамі пачынаюць круціць верхні камень. Спачатку, пакуль галоўкі ня парушаны, трэба верхні камень больш падняць, каб хутчэй расьцерці самыя галоўкі, а прапускаючы ўжо мяшочкі, трэба камень значна апусьціць, каб як мага чысьцей вылушчыць насеньне з усіх мяшочкаў. Па зьвестках сялян Смаленшчыны, якія ў сваёй практыцы ўжываюць гэтыя жорны, адзін чалавек можа за дзень выцерці да 5 пудоў чыстага насеньня канюшыны, інакш кажучы, ля поўдзесяціны насеньня канюшыны можна вымалаціць за адзін дзень. Калі гэтыя лічбы спраўдзяцца на палову, дык і то відаць вялікі посьпех пры ўжываньні жорнаў.

Сваіх назіраньняў мы яшчэ ня маем, хоць такія жорны я ўжо зрабіў для гаспадаркі свайго бацькі, але што такія жорны добра вымалачваюць насеньне, бачыў не адзін раз. Ды каля паўсотні аграномаў бачылі і круцілі гэтыя жорны, калі былі на курсах у Беларускай с-г. Акадэміі ў Горках, дзе два гады я трымаў гэтыя жорны ў надзеі, што машынаспрабоная станцыя іх вывучыць. І хаця прафэсар машыназнаўства Ю. А. Вэйс сказаў мне, што ад іх можа быць вялікая карысьць для сялянства, але за два гады так і не сабраліся іх навукова дасьледаваць у рабоце. Зараз я іх перадаў бацьку і ўжо па сялянскаму будзем вывучаць іх работу. Я таксама згаджаюся з прафэсарам, што карысьць можа быць вялікая, а таму і раю кожнаму гаспадару самому зрабіць такую простую прыладу.

Калі старых жорнаў няма—можна зрабіць новую раму. Трэба толькі выбраць добрае дрэва, моцнае, з шырокімі гадавымі слаямі, тады пры рабоце, крохкая часта слою выціраецца, а рубчыкі застаюцца і між імі найлепш абціраецца насеньне. Чым больш рубчастымі стануць каменьні, тым хутчэй і чысьцей будуць яны вылузгваць насеньне.

Для сваіх жорнаў я зрабіў дадатковае палепшаньне. Каб палегчыць працу і павялічыць колькасьць абмалоту, мы надумаліся зрабіць двухпарную перадачу шасьцёрак. Адна пара конусавых шасьцёрак замацоўваецца каля верацяна, унізе жорла, а другая пара простых шасьцёрак, як у арфе, каля махавога кола. Круціць такія жорны ўжо трэба за махавое кола, з боку, што значна спадручней.

Мая рада, не чакаючы вынікаў ад другіх, паспрабуйце зрабіць самі, як гэта зрабіў і я. Прыглядацца да другіх вельмі трэба, але-ж трэба і самім больш рухацца, больш клапаціцца аб палепшаньні сваёй гаспадаркі. Пад ляжачы камень і вада не цячэ—кажа народная прыказка.

Аграном **М. Лайкоў**.




## Запасайцеся сваячасова апалам.

Летась у нумары 8 часопісу „Плуг“ за жнівень месяц, я адзначаў як палепшыць справу з апалам, бо як толькі надыходзіць восень, кожны аб гэтым пачынае клапаціцца. Зараз таксама надышла пара, калі зноў трэба аб гэтым пагаманіць. Тут неабходна ўспомніць, што не чакаючы разьмеркаваньня гадовай лесасекі, сяляне могуць зараз жа прыступіць да загатоўкі апалу з наступных крыніц:

1) загатоўка дроў з валежніку;
2) „ з танкамернага сухастою;
3) „ з паніклых тоўстых галін арэшніку і інш. падлескавых парод.

Гэткая загатоўка восеньню будзе вытварацца ў кожным лясьніцтве ў парадку падчысткі.

Затым павялічыць апал можна здабыцьцём карчоў, тут і падчыстка не патрэбна, а толькі неабходна прыкласьці працу.

Мне думаецца гэта ёсьць галоўныя крыніцы, якія могуць дапамагчы сялянству дадаткова атрымаць апал, бо разьмеркаваньне гадовай лесасекі толькі па 3 куб. мэтры дае прыблізна на гаспадарскі двор апалу (дроў). А ўсім добра вядома, што кожны двор патрабуе ня менш, як 10 куб. мэтраў апалу. Вось трэба прыкласьці усе стараньні, каб атрымаць гэтую апошнюю лічбу, гэта значыць ня менш, як 7 куб. мэтраў на кожны сялянскі двор.

Цяпер паўстае пытаньне: „Ці можна-ж будзе сапраўды атрымаць гэту лічбу?“

Мне здаецца, што можна. Усім вядома, што ў гэтым годзе мы мелі вялікую шкоду ў лесе ад 2-х гураганаў, якія пранесьліся па ўсёй Беларусі і амаль што няма той лясной дачы, якая-б яго не адчувала,— значыць па гэтай прычыне ўсе тыя крыніцы, аб якіх вышэй адзначалася, значна пашыраны ў гэтым годзе. Вось і трэба прыродную няўзгоду дзеля лесу скарыстаць поўнасьцю, каб мець сёлета апал у дастатковым ліку. Акрамя таго па ўсіх лясьніцтвах вытвараліся гаспадарчыя распрацоўкі буралому і ветравалу, з якіх багата маецца дроў нават ужо сухаватых. Трэба прылажыць усе стараньні, каб купіць дроў, бо зараз вытвараецца продаж іх ува ўсіх лясьніцтвах. Мала таго, трэба было-б у гэтым годзе загатаваць апалу і на будучы час, бо кожны добра ведае, што сухімі дровамі ня толькі лепш паліць, але іх ідзе шмат менш, чымся сырых. Адзін селянін мне казаў:

„Сухіх дроў на палову йдзе
І дым вочаў жонцы ня дзярэ“.

Вось чаму трэба ў гэтым годзе запасьціся дрыўмі ня толькі на зіму, але і на будучы час. Тут таксама неабходна заўважыць, што

сёлетні буралом мае, і гэта зусім справідлова, скараціць карыстаньне драўнінай і ў бліжэйшыя гады. Вось каб у гэтыя бліжэйшыя гады быць забясьпечаным і мець сухія дровы, трэба іх сёлета загатаваць, парадкам падчысткі і купляй гатовых.

Праўда, цяжка з грашыма, але нічога не парадзіш, трэба як небудзь патурбавацца, бо бяз дроў, як і без яды—дрэнна пражываць.

Нёманскае Л—ва. **Т. Гаўрыловіч.**

---

# Гадуйце хутка-растучыя лясныя пароды.

Лясная гаспадарка розьніцца ад сельскае тым, што сельскі гаспадар у кароткі тэрмін бачыць вынікі сваёй працы: праз год, а то і ў тое-ж лета зьбірае ўраджай з поля. Лясны-ж гаспадар рэдка які можа даждацца бервяна на хату з пасаджанае ім хвойкі, бо дрэва расьце вельмі павольна і толькі праз 60—100 год пасьля пасеву дае матар'ял на будоўлю. Але ёсьць лясныя пароды, якія растуць даволі хутка і ў малы тэрмін дадуць ня толькі паліва, але і бярвеньні на будынак.

Цяпер, калі з кожным годам лясныя плошчы зьмяншаюцца, усё цяжэй і цяжэй становіцца здабыць лесу, а патрэбы нашы, у процілегласьць гэтаму ўсё больш растуць на розныя драўляныя матар'ялы. Адсюль вынікае неабходнасьць гадаваць хуткарастучыя пароды дрэў для задавальненьня сваіх патрэб.

А каб хутчэй здабыць нам лясны матар'ял, трэба старацца садзіць такія пароды, якія-б хутка расьлі. Наогул трэба адзначыць, што лісьцяныя лясныя пароды хутчэй растуць, чым іглістыя (хвоя, елка, мадрына, ельніца). Па хуткасьці свайго росту нашы лясныя пароды можна разьмеркаваць у наступным парадку: 1) таполі, 2) асіны, 3) альха, 4) бяроза, 5) лімана, 6) вяз, 7) бераст, 8) хвоя, 9) клён, 10) ясен, 11) дуб, 12) ліпа, 13) елка.

Калі прыглядзецца да такога парадку разьмеркаваньня лясных парод, дык можа заўважыць, што чым хутчэй парода расьце, тым яна больш *„сьветалюбівая“* і наадварот, чым павольней расьце, тым больш яна зьяўляецца *„ценятрывалай“*, як кажуць лесаводы. Ведаючы гэта, трэба абмеркаваць: як скарыстаць пад лес пустапарожныя месцы, якіх у нашых вёсках ёсьць колькі хочаш (гэта выганы, вуліцы, каля дарог, каля рэчак, равоў, гумнішчы і інш.). Папершае, абсадкі прыдаюць мясцовасьці прыгожасьць, ахоўваюць будынкі ад пажараў, захоўваюць вільгаць у рэчках і інш. Заўважана, што рака Масква стала мелкаводнай дзякуючы таму, што каля яе берагоў павысякалі лясы. Другая карысьць гэта тая, што мы з часам будзем мець драўніну ад гэтых пасадак.

З нашых парод варта садзіць такія пароды, як таполі, вербы і бярозы, бо яны маюць тонкае, малараскідзістае гальлё і даючы мала цені будуць менш шкодзіць сельскай гаспадарцы (сяўбе, агародзіне іінш.).

Лесаводы даўно ўжо пачалі прывучаць чужаземныя лясныя пароды да нашых умоў жыцьця, да такіх адносяцца: 1) амэрыканскі ясен, які вельмі хутка расьце і дае добрую драўніну, 2) цукровы клён, які дае сок для дабываньня цукру і інш. Апісаньне гэтых парод, а таксама пра спосаб разьвядзеньня можна запытацца ў спэцыялістых Навука-Дасьледачага Інстытуту па адрасу: *Менск Навукова-Дасьледчы Інстытут Сельскае і Лясное Гаспадаркі імя Леніна.*

**М. Шалупенка.**

---




## Трэба скарыстаць зеляніну.

У гэтым годзе было надта няспрыяючае надвор'е для росту траў, як на паплавох, так і на балотных сенажацях. Сена сабрана таксама менш, чым яго атрымлівалася ва ўраджайныя гады. Прапала ў многіх раёнах і канюшына, замест яе накасіў гаспадар возік другі мятлюку іншых сьметнякоў. Многім гаспадаром прыдзецца задумацца як пракарміць скаціну ўзімку.

Кармовае пытаньне ў выніку гэтага склалася надта дрэнным. Прыдзецца адказваць за ўсё аднэй саломе, ці сечцы з яе. Але і ярына, салома якой магла-б вызваліць ад бяскорміцы, ня ўсюды добра вырасла. А ад азімай саломы, як вядома, якая там спажыва, пры такім корме добрага выгляду жывёлы, малака ад кароў, чакаць ня прыдзецца. Пры такім становішчы трэба скарыстаць тыя расьліны, якія яшчэ ёсьць на палёх, гародах,—гэта бульбоўнік, бацьвіньне караньплодаў, капусны ліст, ды розныя сьметнякі навокал сядзіб і па пустках. На гэтыя расьліны раней, асабліва ў гады забясьпечанасьці кармамі, амаль зусім не зварочвалася ўвагі. Ліст капусны, бацьвіньне караньплодаў кідаўся жывёле абы скарэй скарыстаць, каб не загніў дзе ў сенцах ці адрынцы. А сьмяцьцёвыя расьліны,—ну, яны служылі толькі пашыральнікамі свайго насеньня сярод палявых і гародных расьлін, зьніжаючы ўраджай апошніх.

Усё гэта можна скарыстаць, загатаваўшы з іх так званы квашаны (сіласаваны) корм. Корм з памянёных расьлін, захаваны ў зялёным выглядзе, ня менш спажыўны, чым добрае сена. Дадатак яго ўзімку ў адпаведнай колькасьці, як высьветлена досьледамі, нават неабходны для захаваньня здароўя жывёлы.

Праўда, заквасіць якіх небудзь 20-30 пудоў корму немагчыма, для заквашваньня патрэбна значная колькасьць зеляніны. Патрэбна яе столькі, каб можна было запоўніць яму ня менш кубічнага сажню, г. е. каля 350 пудоў. Вядомая рэч. што паасобнаму гаспадару селяніну такой колькасьці зеляніны ўвосень не сабраць. Але розным аб'яднаньням, с.-г. таварыствам, арцелям ці камунам, а тым болей саўгасам гэта зрабіць упаўне магчыма. Апісаньне, як пабудаваць належным чынам яму для закваскі корму і як застаўляць корм, дэталёва апісана ў часопісі „Сельская і Лясная Гаспадарка № 1 кн. 4 г. г., „Плуг“ №№ 6 і 7 1928 году.

Для дробных сялянскіх гаспадарак застаецца адзін спосаб, скарыстаць больш эканомна з восені зеляніну. Калі набіраецца капуснага лісту, бульбоўніку бацьвіньня буракоў і інш. караньплодаў такая колькасьць, што дадаючы патрохі да іншых кармоў, скармліваньне рась-

цягнецца на доўгі час. так што частка іх можа папсавацца, дык у такім разе раіцца іх захоўваць—тонка расклаўшы ў халодным будынку. Раіцца яшчэ перамешваць сакавітую зяляніну з сухою саломаю, сечкай, альбо мякінай. Перакладаецца і ў гэтым разе зяляніна ня тоўстымі пластамі-пласт зяляніны і пласт інш. матар'ялу. Вільгаць з зяляніны ўпітваецца імі і такім чынам можна больш на тыдзень другі захаваць корм і скарыстаць яго цалкам, бяз трат. Гэта забясьпечыць ад вышукваньня корму на такі-ж тэрмін у вясну, бегаць пазычаць па пудзіках салому ў больш заможных сялян, а то плаціць у тры разы даражэй за сена.

Бульбянік-жа можна і проста высушваць, як звычайнае сена, параскладаўшы на падстрэшшу будынкаў. Пад весну жывёла зьесьць яго з вялікай ахвотай. Трэба ня ўпусьціць час, падрыхтаваць корму з усяго, што толькі ёсьць належнага у гаспадарцы. Зіма не за гарамі, трэба да гэтага рыхтавацца. С. Х.

---

# Досьлед адкорму сьвіней на Турскай с.-г. дасьледчай станцыі.

Пастаўленыя досьледы з адкормам сьвіней у сялян [1]) служылі паказам лепшага адкорму сьвіней сялянам той-жа вёскі. Для азнаямленьня з гэтай справай сялян у большым ліку вёсак Бабруйскага, часткай Магілеўскага і Калінінскага акруг, быў праведзен досьлед пры станцыі, куды сяляне наведваюцца як экскурсіямі, так і ў адзіночку.

Станцыя паставіла досьледы вырошчваньня простых парасят і чыстакроўных іёркшырскіх, каб параўнаньне відавочней паказала перавагу апошніх. Для гэтай мэты былі куплены 8 штук парасят ад простых сьвіней, якія пачалі гадавацца разам з чыстакроўнымі іёркшырскімі. Узрост усіх парасят быў па $2^1/_2$ месяцы. Досьлед пачаўся 4 кастрычніка 1926 г. і працягнуўся да сакавіка месяца 1927 г. Пасьля гэтага ўсе парасяты былі злучаны разам і адкормліваліся. Дэталёвых назіраньняў у далейшым не вялося, а застаўляліся парасяты толькі з мэтай паказу.

Зьмешчаная табліца характарызуе выхоўваньне абедзьвюх груп да 6 м-цаў узросту.

| Тэрмін узважваньня. | Іёркшыры | Колькасьць крухм. эквів. пайшло на 1 кілё прывесу. | Простыя вырош. станц. | Колькасьць крухм. эквів. пайшло на 1 кілё прывесу. | Простыя купленыя ў сялян. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. Вага праз $2^1/_2$ мес. пасьля нараджэньня . . . . | 15.1 | 2.1 | 10 | 1.6 | 10 |
| 2. Вага ва ўзросьце 3 мес. 10 дзён. . | 19.5 | 1.8 | 16.4 | 1.8 | |
| 3. Вага ва ўзросьце 3 мес. 20 дзён. . | 23.2 | 1.8 | 20.4 | 2.4 | 17 |
| 4. Вага ва ўзросьце 4 мес. . . | 27 | 3.5 | 23.5 | 4.4 | |
| 5. Вага ва ўзросьце 4 м. 10 д. . | 29.4 | 2.4 | 25.5 | 5 | |
| 6. Вага ва ўзросьце 5 мес. . . | 38.2 | 3.35 | 32 | 4.5 | 25 |
| 7. Вага ва ўзросьце 6 м. 10 д. . | 52.6 | 2.5 | 43.4 | 3.3 | |

[1]) Глядзі „Плуг“ № 8—1928 г., старонка 29.

Колькасьць крухм. эквівал. пайшло на 1 кілё прывесу простых, купленых у сялян 6,5. Пры прызначэньні ў сялян колькасьці паядаемага корму вырошчваемымі парасятамі аказалася, што кармовых адзінак атрымалі амаль дастаткова, а корм быў амаль што з аднэй бульбы.

У пачатку выхаваньня рост простых парасят амаль што нічым не адрозьніваўся ад іёркшырскіх. На жаль, утрыманьне парасят было ня ў вельмі цёплым памяшканьні—сьвінарніку, што ў 1 пярыяд разьвіцьця магло горш адбіцца на росьце іёркшыраў, чымся на простых. У выніку, разьвіцьцё іёркшыраў было заметна нават на вока лепшым, чым простых. Пародзістыя падсьвінкі былі значна большыя, як па вазе, так і па росту. Калі параўнаць вырошчваньне простых парасят на станцыі і таго-ж памёту парасят у сялян, то між імі розьніца яшчэ больш яскравая, чым у дасьледаваных простых і іёркшырскіх. Сялянскія парасяты амаль у 2 разы адсталі ад сваіх равесьнікаў, вырошчваемых на станцыі.

Адсутнічаньне цёплых хлявоў і аднастайнасьць кармленьня, галоўным чынам бульбай, амаль што без асярадкованых кармоў, значна затрымлівала ўзрост і ўздаражала вырошчваньне сялянскіх сьвіней. Пры аглядзе завадзкога выхаваньня сьвіней сяляне доўга спыняюцца на параўнаньні даных досьледу і дзівяцца ня толькі пераважнасьці іёркшыраў у адносінах да простых, але і тым, што яны разьвіліся ў 6 мес. такім-жа чынам, як у сялян у 1½—2 гады.

Пастаноўка такіх досьледаў пры завадзкім выхавальніку мы лічым нават больш карысным, чым у сялян, таму што тут магчыма заўсёды падрабязна растлумачыць і зацікавіць значна большы лік сялян, чым у ваднэй вёсцы.

**М. Драздоў і М. Юнгер.**

---

# Вэтэрынарыя.

## Шалёнства ў жывёлы і як з ім змагацца.

Шалёнства—вельмі пашыраная ў нас на Беларусі хвароба. Ім можа заразіцца і захварэць кожная свойская жывёла і чалавек. Заражэньне звычайна, наступае праз укус шалёнаю жывёлінаю. Праз гэта мы бачым, што найчасьцей хварэюць шалёнствам сабака, воўк, ліса, якія часта кусаюцца паміж сабою і кусаюць другую жывёлу, а таксама і чалавека.

### Прычына хваробы.

Доўгі час ня ведалі, ад чаго бывае шалёнства. Думалі, што сабакі шалеюць ад гарачыні, ад голаду, з нуды, ад болі і г. д. Цяпержа высьвятлена, што шалёнствам жывёла хварэе толькі тады, калі яна будзе пакусана другою шалёнаю жывёлаю, найчасьцей сабакам альбо воўкам, і калі сьліна шалёнае жывёлы пападзе ў рану. З гэтага відаць, што зараза знаходзіцца ў сьліне хворае жывёлы. Аднак мы ведаем, што ня кожная пакусаная жывёла, або чалавек хварэе; залежыць гэта ад таго, што сьліна шалёнае жывёлы не пападзе часам у рану, а застаецца на шэрсьці ў жывёлы, або на адзежы ў чалавека.

### Адзнакі шалёнства.

Пасьля ўкусу жывёлы шалёнаю сабакаю (альбо іншаю жывёлаю), адзнакі зьяўляюцца, як вядома, не адразу, а спачатку цягнецца т. зв.

„патаемны пярыяд“. Гэты патаемны пярыяд бывае вельмі не аднальковы пры шалёнстве: у вадных ён цягнецца ня больш 10—17 дзён, а ў другіх 1-2-3 і болей месяцаў, пасьля чаго ўжо зьяўляюцца адзнакі шалёнства. Адрозьніваюць дзьве формы шалёнства: *буйнае і ціхае.*

### Буйная форма шалёнства.

Гэта форма хваробы цягнецца 4—7 дзён, пасьля чаго жывёла памірае. Пры буйным шалёнстве жывёла парываецца ўцячы з двара і кідаецца кусацца, прычым гэта жаданьне кусацца павялічваецца ў яе з кожнаю гадзінаю, пакуль дні праз тры не зьявіцца ў яе паляруш заду і жывёла перастане хадзіць; далей робіцца ў яе паляруш ніжняй сківіцы і жывёла ня можа ні кусацца, ні глытаць. Скора шалёная жывёла худзее, слабее і, нарэшце, яна гіне на 6—7 дзень ад пачатку хваробы.

### Ціхая форма шалёнства.

Пры гэтай форме хваробы галоўнаю адзнакаю зьяўляецца раньні паляруш ніжняе сківіцы. Злосьці з жаданьнем кусацца, як гэта мы бачым пры буйным шалёнстве, тут няма, дзякуючы чаму гэтая форма шалёнства менш небясьпечна для акружаючых. Рэшта адзнакі—нуда, хістаючыя рухі, схуданьне і г. д.—усё гэта назіраецца і тут, але гэтыя адзнакі звычайна не зьвяртаюць на сябе ўвагі, і жывёла гіне, пакідаючы гаспадара ў няведаньні наконт запраўднай прычыны яе сьмерці.

### Як захаваць людзей і жывёлу ад шалёнства.

Калі на двор забяжыць чужы сабака і перакусае людзей і жывёлу, альбо калі свой сабака зробіцца нудным, злым, будзе бегаць бяз толку з аднаго месца на другое, хавацца па кутках і кідацца на людзей і жывёлу, то такога сабаку трэба ўзяць пад нагляд, зачыніўшы яго ў памяшканьне, адкуль ён ня мог-бы ўцячы, або прывязаць на ланцуг. Калі ў сабакі запраўды пачалося шалёнства, то дзён праз 5—6 ён абавязкова здохне. За час нагляду можна высьвятліць самаму або з дапамогаю вэтэрынара, ці хварэе сабака на шалёнства, і потым засьвердзіць гэта праз ўскрыцьце. Высьвятленьне шалёнства абавязкова ў тых выпадках, калі сабака ўкусіць чалавека, якому не пазьней, як праз 6 дзён пасьля ўкусу, абавязкова патрэбна рабіць прышчэпкі на Пастэраўскай станцыі (такія станцыі маюцца цяпер ў кожным акруговым горадзе). Забіваць-жа адразу сабаку, які ўкусіць чалавека, непрактычна, бо найлепш можна распазнаць шалёнства, назіраючы хворага сабаку ў жыцьці, і забіць падазроную сабаку патрэбна толькі тады, калі няма іншага спосаба затрыманьня яго і аддзяленьня.

### Трэба па вёсках трымаць сабак на прывязі.

Самы правільны, самы пэўны спосаб, з дапамогаю якога можна зрабіць так, што шалёнства будзе рэдка зьяўляцца, гэта трымаць па вёсках сабак толькі на прывязі, а ў гарадох і мястэчках ня выпускаць сабак на вуліцу бяз наморднікаў. Усіх-жа лішніх і бяздомных сабак трэба лавіць і зьніштажаць. Заўважана, што шалёнства вельмі рэдка зьяўляецца там, дзе няма бяздомных сабак, напрыклад, у Нямеччыне і ў Англіі.

Вэтэрынарны ўрач **М. Жарын.**




## Жыцьцё і праца с.-г. камуны „Зьвязда“.

*(Аканчэньне).*

**Склад сяброў, харчаваньне, разьмеркаваньне вынікаў працы і інш.**

Азнаёміўшыся з галоўнымі галінамі гаспадаркі камуны—паляводзтвам, жывёлаводзтвам і іншымі, вельмі цікава будзе азнаёміцца і з арганізацыяй рабочай сілы, г. з. з каго яна складаецца, на якія работы траціцца ў працягу году і ці карысна траціць камуна сваю людзкую сілу ў розных галінах гаспадаркі.

У працягу году ў камуне было 69 душ насельніцтва: з іх працаздольных мужчын—20 чалавек, жанчын—17, падросткаў—5 і рэшта дзеці. Калі перавесьці ўсіх на дарослых едакоў—мужчын, то будзе 51,5 едакоў. Кожнаму вядома, што ўтрыманьне сям'і зьяўляецца значным выдаткам у гаспадарцы. У залежнасьці ад дастатку багацейшыя жывуць добра, беднякі дрэнна. У камуне такой розьніцы, дзякуючы агульнаму харчаваньню, няма.

У наступнай табліцы з левага боку паказваецца з якіх рэчаў складаюцца харчы агульнае кухні на працягу году, а з правага боку, як разьмяркоўваецца праца па розных галінах у гаспадарцы:

| Назва трат на яду. адзежу, будынак, апал і іншае | Колькасьць | Каштоўнасьць | Дзе скарыставана рабочая сіла камунараў | Лік дзён |
|---|---|---|---|---|
| **Харчаваньне 69 душ:** | | | У заработках . . . . . | 100 |
| Мука жытняя . . . . | 587 п. | 874 р. | У паляводзтве . . . . | 1325 |
| Крупы розныя . . . . | 94 „ | 321 „ | На сенажаці . . . . . | 350 |
| Бульба . . . . . . | 887 „ | 382 „ | У садзе і гародзе . . . | 208 |
| Варыва, яблыкі . . . | 597 „ | 332 „ | Каля рагатае жывёлы . . | 1622 |
| Сьвінное сала, мяса, цяляціна . . . . . . | 210 „ | 2341 „ | „ сьвіней . . . . . | 282 |
| Малако, масла, сыр . . . | 1290 „ | 2490 „ | „ курэй . . . . . | 18 |
| | | | „ пчол . . . . . | 10 |
| Яйца 292 дзясяткі і кураціна . . . . . . | — | 99 „ | „ коняй і жарабят . . | 224 |
| Мёду . . . . . . | 1 п. | 14 „ | Загатоўка дроў і матар'ялаў | 142 |
| Цукар, чай, кофе, мука пшанічная . . . . | — | 1340 „ | Рамонт інвэнтару ў кузьні і стэльм . . . . . | 220 |

| Назва трат на яду, адзежу, будынак, апал і іншае | Колькасьць | Каштоўнасьць | Дзе скарыстана рабочая сіла камунараў | Лік дзён |
|---|---|---|---|---|
| **Іншыя траты**: | | | Пабудова і рамонт будовы | 301 |
| Утрыман. будовы і мэблі | — | 396 „ | Праца ў млыне (млынар, качагар) . . . . . | 614 |
| Закупка абуцьця і адзежы | — | 535 „ | На масладзельле, варку сыра . . . . . . | 216 |
| Культурныя патрэбы і лекі | — | 117 „ | | |
| Грашыма членам . . . | — | 187 „ | **На агульныя патрэбы**: | |
| Апал і асьвятленьне . . | — | 608 „ | У розныя ўстановы, на кірмаш, стораж, кантора . | 683 |
| Заплачана нанятым на работы . . . . . . | — | 154 „ | Каля кухні, сталовай, дзіцячых ясьляў, прачашнай і г. д. . . . . . . . | 1838 |
| Заплачана краўцом і шаўцом . . . . . . . | — | 116 „ | | |
| Заплачана рабочай сіле на абслугоўваньне сяброў, прыгатаўленьне, мыцьцё і г. д. . . . . . . . | — | 1100 р. | | |
| Усяго затрачана гаспадаркаю на ўтрыманьне камунараў | — | 11306 р. | Усяго за год вышла | 8144 |

Каштоўнасьць утрыманьня ўсяго насельніцтва камуны ў 69 душ абыходзіцца 11.306 р., ці 219 р. на аднаго сталага едака ў год (60 кап. у дзень). Галоўную частку складае каштоўнасьць харчу—72%. Выдаткі на адзеньне і абутак у працягу году складаюць зусім нязначную частку—722 руб., ці 6,4% ад усяе сумы. Гэта адно з балючых месц камуны. Галоўную прычыну тут адыгрывае тое, што ўся энэргія, усе сродкі камуны накіроўваюцца на разьвіцьцё гаспадаркі. З разьвіцьцём гаспадаркі паступова паляпшаецца дабрабыт і самае жыцьцё камуны.

Яшчэ адзін вялікі недахоп—адсутнасьць памяшканьня. Камунары жывуць цяпер у асобных хатках па 2—3 сям'і. Хаты старыя, бедна абсталяваныя. Паўстае неадкладная патрэба будаваць новыя памяшканьні.

Праца ў камуне пастаўлена здавальняюча. Працуюць сталыя і падросткі. Усяго на кожны дзень у сярэднім прыходзіцца 29 працоўных чалавека-дзён. Між галінамі гаспадаркі праца разьмяркоўваецца такім чынам: больш за ўсё даецца працы жывёлагадоўлі; усяго 1932 рабочых дні, за тым ідзе паляводзтва, лугаводзтва, садоўніцтва і гароднiцтва—1873 дні і на абслугоўваньне дабрабыту—1838 дзён.

Адзін рабочы дзень аплачваецца вышэй у садоўніцтве і гародніцтве, затым сьвінаводзтве, паляводзтве, ніжэй за ўсіх працу аплачвае рагатая жывёла.

Для падкрэсьліваньня вынікаў даецца табліччка складу валавых прыбыткаў і выдаткаў камуны ў працягу году па галоўных галінах гаспадаркі.

| №№ па чарзе | Назва галін гаспадаркі | Выдаткі на кожную галіну ў працягу году | | Прыбыткі ад кожнае галіны ў працягу году | | Валавы (агульны) | | | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | Убытак | | Прыбытак | | |
| | | Руб. | К. | Руб. | К. | Руб. | К. | Руб. | К. | |
| 1 | Паляводзтва | 5982 | 28 | 10393 | 65 | — | — | 4411 | 36 | 1) Цэны на розныя прадукты расходу і прыбытку ўзяты фактычныя, ці па мясцовым рыначным цэнам. |
| 2 | Лугаводзтва | 602 | 90 | 1302 | 00 | — | — | 699 | 10 | |
| 3 | Садоўніцтва і гародніцтва | 381 | 36 | 1799 | 71 | — | — | 1418 | 35 | |
| 4 | Буйн. раг. жыв. | 5980 | 39 | 5978 | 17 | 2 | 22 | — | — | 2) Склад расходу па паляводзтву, раг. жывёлы паказаны вышэй у рахунку. |
| 5 | Сьвінаводзтва | 1788 | 28 | 2488 | 25 | — | — | 699 | 97 | |
| 6 | Птушкаводзтва | 82 | 32 | 102 | 32 | — | — | 20 | 00 | |
| 7 | Пчалярства | 28 | 49 | 44 | 40 | — | — | 15 | 91 | |
| 8 | Маслад. і сырав. | 3859 | 16 | 4029 | 01 | — | — | 169 | 85 | |
| 9 | Млын з цыркуляр. | 2825 | 55 | 3333 | 40 | — | — | 507 | 85 | |
| | Усяго | 21530 | 73 | 29470 | 91 | 2 | 22 | 7942 | 39 | |

З табліцы відаць, што напрамак гаспадаркі — жывёлаводны. На ўтрыманьне жывёлы (рагатае, сьвіней, птушак і пчол) патрачана 7879 руб. 48 кап., атрымана-ж гаспадаркаю валавога прыбытку 8613 р. 14 к., ці 27% ад усяе сумы прыбытку. Чысты-ж прыбытак ад жывёлаводзтва ровен 733 р. 66 к. А калі да гэтага прыбавіць масладзел. і сыраварэньне, то будзе каля 40% ад усяго валавога прыбытку. Цяпер зьвернем увагу на паляводзтва: чысты прыбытак яно дае 4411 р. 36 к. На першы погляд паляводзтва зьяўляецца самай карыснай, самай рэнтабельнай галінай гаспадаркі. На самым-жа дзеле гэта ня так. Вялікі чысты прыбытак ад паляводзтва і шмат меншы прыбытак ад жывёлагадоўлі вылічан таму, што прадукты паляводзтва ацэнены па высокім кірмашовым цэнам. Напрыклад: салома яравая — 40 кап., салома азімая — 35 кап. за пуд і па гэтай цане скармлівалася жывёлаю. Валавы прыбытак ад паляводзтва дае толькі 33% ад усяе сумы і значна меншы чым ад жывёлагадоўлі.

Ужо ў сучасны момант, калі гаспадарка камуны яшчэ толькі разьвіваецца, вялікая выгаднасьць і рэнтабельнасьць буйнай калектыўнай гаспадаркі ў параўнаньні з дробнаю сялянскаю — відавочна; гэта на працягу артыкулу яскрава падкрэсьлена лічбамі. Атрыманы валавы прыбытак падзяляючы на лік дзесяцін пахаці выходзіць, што на 1 дзесяціну пахаці выдае 270 р., а на аднаго дарослага работніка прыпадае 572 руб., што сьведчыць аб высокай рэнтабельнасьці буйнай гаспадаркі ў параўнаньні з дробнаю сялянскаю. Калі-ж кінуць погляд на будучае, дык пэрспэктыва разьвіцьця маецца пэўная, фундамэнт паложаны моцны.

Як ва ўсіх калгасах, так і гэтай камуне адчуваецца недахоп аграномічнай дапамогі. Камуна, па магчымасьці, прымае крокі па падняцьцю кваліфікацыі сваіх сяброў. З сваіх камунараў выпрацоўваецца свой масладзел—сыравар, які праслухаў па гэтай спэцыяльнасьці шэраг курсаў. Кустовыя аб'яднаньні будуць мець магчымасьць прыблізіць агранома да калгасаў.

На заканчэньне скажам некалькі слоў аб арганізацыі жыцьця ў камуне. Правільна будзе зазначыць, што арганізаваць камунальныя ўзаемаадносіны зьяўляецца досыць цяжкаю справаю. Ня толькі сярод сялян, але і ў шмат іншых грамадзян існуе пагаворка „сын з бацькам ня ўжывецца ў аднэй хаце, як-жа злучыць чужых людзей?“. На прыкладзе камуны бачым, што чужыя людзі, зусім не сваякі, нашлі магчымасьць ужывацца, агульна працаваць і есьці за адным сталом. Патрабаваць ад камунараў, каб у іх было „ціш да гладзь, да без канца благадаць“ могуць толькі тыя людзі, хто ў камуне нічога не разумее. Перад камунарамі зусім выразна жыцьцёвыя мэты—з кожным крокам палепшыць сваё жыцьцё.

Працоўны дзень прыблізна праходзіць гэтак: сьнеданьне ў 7 гадзін раніцы. Па нараду заўхозу кожны ведае сваю працу і накіроўваецца да яе пасьля сьнеданьня. Праз пяць гадзін абед і пасьля яго час адпачынку. Да вечару ізноў працуюць, а пасьля вечару час вольны. Увечары ўсе зьбіраюцца ў клюб і чытальню; тут праводзяцца вынікі за дзень і разьмяркоўваюцца далейшыя пляны. Камунаю кіруе савет па даручэньню агульнага сходу. Агульны сход зьбіраецца адзін раз у месяц, на якім абгаворваюцца ўсе пытаньні. Камунары выпісваюць газэты, часопісі, маецца невялічкая бібліятэка. Адсутнасьць памяшканьня не дае магчымасьці разгарнуць як належыць культурна-асьветную працу.

Зразумела, што ёсьць некаторыя непаразуменьні, бываюць і нездавальненьні сярод сяброў, але ўсё гэта з цягам часу зьнішчаецца. Камуна ў апошні год перайшла да індывідуальнае аплаты сяброў, што дало магчымасьць значна падняць працаздольнасьць сяброў.

Дзецям прыходзіцца хадзіць у школу за вярсту, а ў сямігодку за 4 вярсты.

Камуна ставіць пытаньне аб арганізацыі дзіцячых ясьляў, ці пастаянага дзіцячага прытулку, у якім будзе адбывацца выхаваньне дзяцей.

**М. Клімко.**

**Увага.** У № 8 „Плуга“ захаваліся друкарскія памылкі: на старонцы 11, 14 радок зьверху надрукавана 10—12 тыдзень, а трэба 10—12-ты дзень. На старонцы 23, 18 рад. зьверху надрукавана коні і жняярка, а трэба коні і жараб'ята. Старонка 40, 14 рад. зьверху—паліў белы, трэба наліў белы.




# Як падрыхтаваць дзічкі для саду.

## Селянін, дапамагай сабе сам.

У нас мала садовых выхавальнікаў. Шчэпкі з выхавальнікаў адпускаюцца ў такім ліку, што ня могуць задаволіць патрэбы на іх. Пагэтаму прыходзіцца брацца кожнаму селяніну за гэтую справу самому. Нават невялічкі садзік пры сялібе зьяўляецца вялікай дапамогай у гаспадарцы, а таму кожнаму гаспадару трэба імкнуцца разьвесьці яго. Для таго, каб засеяць і належным чынам даглядаць прамысловы выхавальнік, трэба мець адпаведныя веды і практыку. Для невялікай-жа хатняй патрэбы і без вялікіх ведаў і практыкі можна падрыхтаваць дзесятак-другі садовых дрэўцаў.

Як узяцца за такую справу—я і пастараюся выкласьці на старонках часопісі. Усё тое, што я тут буду гаварыць, ёсьць вынік маей 30-ці гадовай практыкі.

Першым пытаньнем я буду разглядаць:—*як вырасьціць дзічкі ў сябе ў гаспадарцы.*

Для таго, каб атрымаць прышчэпку—патрэбны дзічкі. Дзічкоў можна знайсьці ў лесе, але ў іх будуць кепскія карані, таму лепш вырашчваць іх у сябе дома. Гэтая рэч ня вельмі цяжкая, рабіць яе трэба ў наступным парадку: перш за ўсё неабходна падрыхтаваць насеньне яблык, альбо ігруш. Для атрыманьня добра-усходжага насеньня патрэбна браць такія плады, якія ўжо канчаткова высьпелі. Для здабыцьця невялікай колькасьці, $^1/_2$—1 фунта насеньня, можна ўжыць самы просты спосаб. Плады разразаюцца папярок тупым нажом, каб не парэзаць насеньня. Лепш за ўсё нож рабіць з цьвёрдага дрэва—дуба, альбо клёну, такі нож добра будзе рэзаць мякаць плада, а насеньню не пашкодзіць. Здабытае насеньне прасушваецца не на сонцы, а ў цені, затым зьмешваецца з чыстым сухім пяском і захоўваецца да пасеву. На насеньне трэба браць плады лясной яблыні, яны даюць больш выносьлівыя дзічкі. Можна карыстацца і садовымі пладамі, але толькі такімі, якія не баяцца нашых марозаў (антонаўка, баравінка, цітаўка), але ўсё-ж такі лепш карыстацца ляснымі пладамі.

*Калі сеяць садавіну.* Сеяць можна ўвесну і ўвосень, але восеньні пасеў больш надзейны. Для веснавога пасеву трэба асаблівым чынам падрыхтаваць насеньне, іначай яно ня ўзыйдзе ў год пасеву. Увосень лепш сеяць позна, перад наступленьнем марозаў. Градкі для пасеву трэба падрыхтаваць раней—у жніўні, альбо ў пачатку верасьня. Пры падрыхтоўцы градак трэба глебу добра ўгноіць перапрэўшым гноем. Звычайна перапрэўшага гною ў гаспадарцы ня бывае, а таму яго трэба загадзя падрыхтаваць. Робіцца гэта такім чынам: бярэцца па патрэбе

паўвоза, альбо воз гною і звальваецца ў кучу на дварэ ў цяністым месцы. Каб ён ня губляў угнойлівых уласьцівасьцяў, куча пакрываецца суцэльным пластом зямлі, у вадну чвэртку таўшчынёю. Гэта трэба зрабіць у раньнюю вясну, каб гной пасьпеў раскласьціся да восені. Месяцы праз два гной разам з зямлёю перакапваецца рыдлёўкаю і паліваецца вадою, якая прысьпяшае далейшае раскладаньне.

Градкі патрэбна рабіць у $1^1/_2$ арш. шырынёю, даўжыня-ж іх залежыць ад колькасьці высяваемага насеньня. На два пагонных сажні градкі трэба палажыць 3—4 пуды падрыхтаванага гною і добра зьмяшаць з глебай, каб ня было кавалкаў. Паверхню градкі трэба добра разграбсьці граблямі (лепш жалезнымі) і зрабіць яе роўнаю. У такім выглядзе градку застаўляюць да пасеву. Перад самым пасевам папярок градкі праводзяць разоры, глыбінёю каля $^1/_2$—1 вярш., на адлегласьці 3—4 вяршкі адзін ад другога. На градцы даўжынёю ў адзін сажань павінна быць ад 12 да 16 папярэчніх разорак. На дно гэтых разорак робіцца пасеў насеньня яблык, альбо ігруш. Патрэбна старацца, каб насеньне клалася аднолькава: кожнае зярнятка павінна ляжаць адно ад другога на адлегласьці таўшчыні аднаго пальца. Засыпаецца насеньне якой-небудзь лёгкай зямлёю (пяском, прасеянай шчапною зямлёю). Трэба ўхіляцца ўтварэньня скарынкі ў глебе. Калі засыпаць гліністай зямлёю, дык сьціскаючыся за зіму яна ўтварае скарынку, праз якую насеньне можа не прабіцца і загінуць. На гэтае трэба зьвяртаць больш увагі. Насеньне ў разорках засыпаецца не да самага верху. Пласт засыпкі павінен быць таўшчынёю ня больш, $^1/_4$—$^1/_2$ вярш. г. ё. у таўшчыню паўпальца.

Пасьля засыпкі насеньня ўся градка пакрываецца суцэльна яловымі лапкамі, каб забараніць насеньне ад нападу мышэй і хатняга птаства. У такім выглядзе градка застаецца на зіму. Увесну, як толькі пачнуць зьяўляцца ўсходы, лапнік здымаецца з паверхні градкі. З гэтага моманту трэба пільна наглядаць за тым, каб градка не зарастала зельлем: яго трэба зьніштожыць пры першым зьяўленьні, а не тады, калі сьметнякі перарастуць усходы дзічак. На працягу ўсяго лета плошчу градкі неабходна трымаць у пухкім становішчы, трэба рабіць глебу мяккай пасьля кожнага вялікага дажджу. Гэта робіцца дрыўляным (з цьвёрдага дрэва) колікам, праводзячы ім няглыбокія рысы ўздоўж радкоў.

Калі насеньне ўзыйдзе густа, яго трэба прарадзіць так, каб расьліна ад расьліны знаходзілася ня бліжэй як на 1—2 вяршкі. Пры добрым доглядзе да восені дзічкі дасягнуць росту каля аднаго аршыну.

Аграном-садавод **І. Пратасевіч.**

---

# Як я выгадаваў добрую капусту.

Некаторыя суседзі пытаюць мяне: «Скажы, братка, чаму гэта твая капуста парасла вялікая, а наша ўся загінула? Што ты рабіў дзеля гэтага?» Іншыя просяць насеньня, трэція загадзя просяць прадаць ім расады.

Не адмаўляючы ні ў тым, ні ў другім, хачу, апроч гэтага, паведаміць чытачоў «Плуга» аб тым, што я рабіў, што суседзі так зацікавіліся маёй капустай.

Яшчэ ўвосень 26 году кавалак гароду, намечанага пад капусту, я падзяліў удоўж на вучасткі. На адным з іх (крайнім) паклаў гною (конскага), з разьліку 1800-2000 пуд. на дзесяціну. Увосень узараў увесь кавалак.

Прыгатаваў расаду двух сартоў: «славы» з купленага насеньня, і «браўншвэйскай», частку з куплёнага і частку атрыманага ў сваёй гаспадарцы.

За два дні да пасадкі расады я зрабіў наступнае:

Па ўсяму кавалку, ужо цалкам падрыхтаванаму пад пасадку, я, пры дапамозе шнура, намеціў тыя месцы, дзе трэба садзіць расаду. Месцы вымераў адно ад другога на адлегласьці 20 вяршкоў у раду, стольkі-ж сама рад ад раду. Пасадку рабіў у шахматным парадку.

Намеціўшы месцы, я рыдлёўкай раскапаў тут ямкі і засыпаў зямлёй, зьмешанай з угнаеньнем. Угнаеньні я браў такія: перапрэўшы конскі гной, попел і супэрфасфат з калійнай сольлю. Клаў я гэта па наступнаму пляну:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Гной<br>1 | у во<br>2 | сень<br>3 | 4 |
| Гной<br>5 | вяс<br>6 | ной<br>7 | 8 |
| Попел<br>9 | 10 | —<br>11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 |

Супэрфасфат і калійная соль.

На дзялянках 3 і 4 (па васеньняму гною) у кожную ямку падсыпаў па жмені напалову з калійнай сольлю супэрфасфату.

У 5 і 6 дзялянцы клаў крыху перапрэўшага гною (аднаго), у 7 і 8 к гною дадаваў супэрфасфату і калійнай солі. 9 і 10 дзялянку—чыстага попелу, на 11 і 12 да попелу дадаваў супэрфасфат. 13 і 14 дзялянку пакінуў так, без угнаеньня, а ў 15 і 16 паклаў чысты супэрфасфат і калійную соль (напалову).

Праз два тыдні пасадзіў расаду. Сіратой выглядаў увесь капусны кавалак на гародзе, бо надта рэдка сядзела расада. Матка (старая кабета), пакрычаўшы на мяне, паміж кожнай расадзіны, пасадзіла па аднэй расадзіне бручкі, бо баялася, што месца дарам прападзе.

Пасьля пасадкі расады, я ніякай палівкі не рабіў. Праўда, спачатку расада неяк захірэла, некалькі штук прышлося падмяніць новымі, але праз тыдзень увесь кавалак ужо выглядаў весялей. Праз тры тыдні, я на дзялянках 2, 6, 10 і 14, а таксама на 4, 8, 12 і 16 пад кожную расадзіну падсыпаў па «нюху» салетры (пасьля дажджу), і рабіў гэта яшчэ два разы праз 2-3 тыдні.

Асыпаў капусту тры разы за ўсё лета. Палоў, успульхніў глебу і асыпаў палольнікам.

Ужо праз паўтара месяцы пасьля пасадкі расады (капусты) я павыкідаў усю бручку, якую садзіла матка, а праз два месяцы ўвесь вучастак так разросься, што ступіць ня было дзе.

Як сталі зьяўляцца капусныя чэрві, я пазычыў у райаграному апрыскваццель і капусных ласуноў падкарміў парыскай зеленьню. Апрыскваньне я рабіў два разы, праз тыдзень адну за другой, і чарвяка як рукой

зьняло. Потым на капусьце зьявілася нейкая вош, ад якой лісьця карабаціліся, бялелі; але я і на яе зельле знайшоў: ужыў, тутуновы настой з зялёным мылам. Вошы ад гэтага ўсе не прапалі, але значна паменшыліся.

Трэба адзначыць, што ў кожным прадоўжным вучастку я садзіў па 2 рады «браўншвэйскай», па 2—«славы» і па 2 рады сваёй гадоўлі «браўншв». Увосень кожны гатунак на кожнай дзялянцы зважваў (асобна і выяўлялася сярэдняя вага качана (неабцярэбленага).

Трэба сказаць, што лепшай вышла капуста з свайго насеньня. Ці тое, што яно ўжо прызвычаена да мясцовасьці, ці што адбіраў я лепшыя стручкі. Другое месца займае купленая «браўншв.», і апошняе— «слава». Гэтыя качаны («славы») былі драбнейшыя, зелянейшыя, але больш цьвярдыя. Вынікі атрымаў я наступныя:

| № дзялян. | Свая „Браўншв." | Купленая „Браўншв." | „Слава" | № дзялян. | Свая „Браўншв." | Купленая „Браўншв." | „Слава" |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 16 | 14½ | 8½ | 9 | 10 | 10½ | 6 |
| 2 | 23 | 21 | 12¾ | 10 | 14 | 12 | 9¼ |
| 3 | 26 | 23 | 15 | 11 | 17 | 15¼ | 8 |
| 4 | 32 | 28 | 18 | 12 | 21 | 17¾ | 11 |
| 5 | 14½ | 13 | 7 | 13 | 8 | 8 | 6½ |
| 6 | 18 | 17½ | 8½ | 14 | 12 | 11¾ | 7¼ |
| 7 | 24 | 22 | 9½ | 15 | 13 | 12½ | 8¾ |
| 8 | 31 | 30½ | 15¾ | 16 | 17 | 16 | 11 |

*Увага:* вага качаноў паказана ў фунтах.

Акрамя гэтага, трэба адначыць, што чым большы быў качан, тым ён быў больш далікатны і бялейшы, капуста з яго была смачнейшая. Спрабаваў я палічыць, ці вернуцца страты на пакупку штучных угнаеньняў. Дасканала адзначыць не маю магчымасьці, бо дакладна ня ўзважваў падсыпаемае ўгнаеньне, але скажу, што страты ня толькі ўзварачаюцца, але ёсьць досыць значны прыбытак.

І вось, цяпер я магу сказаць, што не ў расадзе і не ў гатунку крыецца ўвесь сакрэт, а ў доглядзе ва ўгнаеньні. Бо ў мінулым годзе я з свайго расадніка даваў расаду суседзям, але ў іх капусту і чэрві паелі, і качаны парасьлі ад 2 да 5 хунтаў, бо садзілі яны расаду на градах вельмі густа, а асыпаньня не рабілі.

**П. С. Самцэвіч.**

в. Дакудава, Крупск. р.,
Аршанск. акр.

# Падрыхтоўка пчол да зімы.

Зімоўка пчол можа быць на волі, ў сьпяцыяльна для гэтага зробленым памяшканьні, так званым імшэніку. Гледзячы дзе пчолы будуць зімаваць і рыхтаваць іх да зімоўкі трэба па рознаму. Калі пчолы рыхтуюцца для зімоўкі на волі, дык тады ўсё вольнае месца ў вульлі запаўняецца матар'ялам, які захоўвае цяпло, як мох, сена. На рамкі кладзецца падушка, якая зроблена з таго-ж матар'ялу. Калі-ж пчолы зімуюць у імшэніку, то ўсе гэтыя ўцяпленьні будуць лішнімі. У імшэньніку, пчолам бывае часьцей дрэнна ад духаты, чым ад холаду. У вульлёх, якія зімуюць у імшэніку, хопіць аднэй падушкі.

Як пахаладзее і пчолы пакінуць лятаць па мёд, трэба зьняць пакрышкі з рамак—палатно ці дошчачкі, гледзячы, што ў якім вульлі ўжываецца. Пускаць пчол на зіму з пакрышкамі ў вульлі ня можна, бо ў вульлі праз нястачу праветрываньня будзе набірацца вільгаць і можа зьявіцца плесень. У вульлёх, якія зімуюць на волі, можна і ня здымаць пакрышак, але трэба зрабіць так: калі рамкі накрываюцца палатном, то яго трэба напалову загарнуць з задняй часткі вульля на перад, а калі рамкі накрываюцца дошчачкамі, то іх трэба рассунуць адну ад другое на палец і толькі тады вулей накрываць падушкай. Калі пчолы зімуюць на волі, тады пакрышак лепш ня здымаць, бо ў гэтым разе і цяпло захоўваецца, і лішняя вільгаць не затрымліваецца. Пры зімоўцы-ж пчол у імшэніку, пакрышкі абавязкова трэба з вульля вымаць, а падушку класьці проста на рамкі. Час, калі трэба пакрышкі здымаць з рамак, дакладна азначыць нельга, часьцей за ўсё гэта робіцца ў канцы кастрычніка. Іх трэба вымаць з вульля тады, калі ўжо пчолы рыхтуюцца зімаваць. Калі зьняць пакрышку тады, як пчолы яшчэ лятаюць, то яны могуць прагрысьці падушку, альбо прамазаць яе (прапалісам). Прапаліс-жа не дапусьціць зімою паветра ў вулей, ад чаго пчолы могуць прапасьці.

У вульлёх зробленых так, што планкі рамак зьверху сходзяцца, планкі трэба зьверху рассунуць і тады ўжо класьці падушку. У гэтых вульлёх пры зімоўцы ў імшэніку, дыяфрагму пажадана замяніць рамай з нацягнутым палатном, тады сырасьць будзе лепш выходзіць з вульля. Як надыдуць халады, вульлі, зімуючыя на волі, накрываюцца чымнебудзь. Лепш за ўсё саломенымі матамі, а паверх іх і пад вулей трэба палажыць яловых лапак. Тады і цяпло будзе добра захоўвацца і мышы ня будуць турбаваць пчол. Вульлі з тоўстымі двайнымі сьценкамі можна нічым не пакрываць.

Калі вульлі ня зусім цёплыя, то іх можна састаўляць у групы па некалькі штук, ляткамі наружу. Месцы паміж вульлямі запаўняюцца матар'ялам, які захоўвае цяпло, а пад дно кладуцца яловыя лапкі.

У Амэрыцы пры зімоўцы аднасьценных вульляў на волі, для іх робяць адмысловыя каўпакі альбо скрынкі. Пустыя месцы паміж каўпаком і вульлем запаўняюцца захоўваючымі цяпло матар'яламі. Скрынкі-ж робяцца вялікія—вульлі на чатыры адна. У сьценках скрынак супроць ляткоў вульляў робяцца вялікія шчыліны для вольнага праходу паветра.

Імшэнік, у якім будуць зімаваць пчолы, трэба загадзя добра праветрыць, каб ён быў сухім. Добра было-б сьцены ў ім выбеліць вапнай і калі можна імшэнік пракурыць серкай. Ад гэтага ўся зараза зьнішчаецца і ўсе казяўкі, якія захаваліся і пасьля могуць турбаваць

пчол, паўміраюць. Трэба выцяжныя трубы імшэніка ачысьціць ад павуціньня. Не забыцца таксама аглядзець страху, каб часамі вада не пацекла праз яе. Падлогу імшэніка вельмі карысна пасыпаць попелам таўшчынёю ў адзін вяршок, тады ў ім ня будуць заводзіцца мышы, бо попел пападае ў нос і ў вочы мышам і яны такіх месц ня любяць. Вульлі ў імшэніку ставяцца на паліцы ў рады, адзін рад пад другім; можна ставіць вулей на вулей, калі крышкі вульляў плоскія. Але ўсё-ж лепш ставіць так, каб кожны з іх можна было вольна вымаць з імшэніка ў разе якое небясьпекі.

Пры зімоўцы пчол ці і ў імшэніку ці на волі, ляткі вульляў ўсё роўна не павінны быць шчыльна закрытымі. Паветра павінна свабодна праходзіць да пчол, бо яна ім вельмі патрэбна. Калі ляткі ня вельмі вялікія, то ў імшэніку іх лепш за ўсё нічым не закрываць. Вялікія-ж ляткі трэба засоўваць прарашочанымі цынкавымі засоўкамі, альбо забіваць мэталічнымі секткамі. У зімуючых на волі вульлёх ляткі можна зьлёгку затыкаць маленькай галінкай з елкі.

У залежнасьці ад таго, наколькі акуратна пчолы падрыхтаваны да зімы, залежыць дабрабыт пчол праз усю зіму, а таму трэба на яе зьвярнуць асаблівую ўвагу. **Пчаляр А. Магучы.**

(В. Загор'е, Віцебскага р.).

# Пытаньні і адказы па зямельных справах.

Пытаньне 115. Ці можна пры земляўпарадкаваньні адвесьці два сядзібных вучасткі многасямейнаму двару, які і цяпер мае на сядзібе дзьве хаты, калі на такі адвод згодна зямельная грамада. (Магілеўская акрземкамісія),

Адказ, Паводле артыкулаў 111 і 112 зям. код. кожны двор пры земляўпарадкаваньні мае права на надзяленьне адным сядзібным вучасткам аднакавага для ўсіх двароў разьмеру. Пастановаю СНК БССР за 21-VII—26 г. пра расплянаваньне і забудоўку сяленьняў найменшы разьмер сядзібы з гумнішчам вызначан у 5400 кв. мэраў (звыш за 1/2 дзесяціны). Гэты разьмер па згодзе зямельнае грамады можа быць падвышан для ўсіх двароў. Але нават і на мінімальнай сядзібе ўпаўне можна разьмясьціць усю будоўлю і пакінуць месца пад сад і гарод. Таму прадстаўленьне пры земляўпарадкаваньні аднаму двару двух сядзібных вучасткаў супярэчыла-б закону і не выклікаліся-б гаспадарчаю мэтазгоднасьцю.

Пытаньне 116. Хто і ў якім парадку павінен разглядаць скаргі членаў сельска-гаспадарчага калектыву, якія выключаны ім з свайго складу.

Адказ. Калі агульны сход сельска-гаспадарчага калектыву сваёй пастановай парушыць устаноўленыя статутам правілы для выключэньня з калектыву паасобных членаў, яны на грунце арт. 2 грам. код. маюць права абараняць у судовым парадку свае правы членства, зьвязаныя з правам на карыстаньне калектыўнай маёмасьцю. Па аналёгіі з пунктам „д" арт. 199 зям. код. у рэдакцыі пастановы ЦВК і СНК БССР за 17-V—1928 г. і з арт. 217 водна-мэліярацыйнага код., скаргі членаў сельска-гаспадарчага калектыву на незаконнае выключэньне з яго складу падсудны раённай зямельнай камісіі.

Пытаньне 119. Ці можна выдзеліць члена са складу двара па іску сям'і, якая жадае ўхіліцца ад платы алімэнтаў. Па судоваму рашэньню грошы на ўтрыманьне прыжытага членам двара на старане дзіцяці спаганяюцца з агульнае маёмасьці двара. (Смалявіцкая райземкамісія).

Адказ. Зямельным кодэксам БССР прадугледжаны падзелы двароў і сплаты. Падзелы працоўных земляробскіх гаспадарак, наогул, прыпынены пастановай Савету Народных Камісараў за 10-IV—25 г. і дазваляюцца толькі ў выключных выпадках. Да іх не належыць жаданьне двара ўхіліцца ад платы алімэнтаў, якія прысуджаны з члена гаспадаркі і спаганяюцца з агульнае маёмасьці. Толькі па іску прадстаўнікоў дзіцяці, якое не належыць да складу двара і мае права на алімэнты з яго члена, народны суд можа прысудзіць, на падставе арт. 71 код. ззк. аб шлюбе, сям'і і апецы, частку маёмасьці двара, якая прыпадае на долю адказчыка. Сплаты члену гаспадаркі даюцца, калі ён выходзіць са складу двара і просіць аб сплаце. Таму падлягае спыненьню справа за адсутнасьцю права на іск, калі іншыя члены двара дамагаюцца выключэньня з яго складу і прысуджэньня сплаты члену, які гэтага ня просіць.




# Пра новую падсуднасьць справаў зямельным камісіям і размежаваньне гэтае падсуднасьці паміж зямельнымі камісіямі і народным судом.

У інтарэсах пашырэньня праў мясцовай улады і набліжэньня зямельнага суду да насельніцтва, пастановай Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР за 17 мая 1928 г. пра зьмену і дапаўненьне зямельнага кодэксу, значна пашырана падсуднасьць справаў раённым зямельным камісіям.

Усе падсудныя зямельным камісіям справы паводле зямельнага і водна-мэліярацыйнага кодэксаў, а таксама абежнікаў Народнага Камісарыяту Земляробства, дзеляцца на спрэчна-зямельныя і водныя справы, земляўпарадачыя, меліярацыйныя і лесаўпарадчыя справы.

Раённым зямельным камісіям падсудны ўсе спрэчкі пра землі працоўнага карыстаньня па-за-гарадзкой мяжой і пра дзяржаўную зямельную маёмасьць раённага значэньня, а таксама пра воды на гэтых землях. Спрэчкі-ж пра дзяржаўную зямельную маёмасьць акруговага і рэспубліканскага значэньня і пра землі працоўнага карыстаньня ў межах гораду, а таксама пра воды на гэтых землях, падсудны акруговай зямелянай камісіі.

Апроч зямельных і водных спрэчак, раённая зямельная камісія вырашае іскі членаў двара па яго маёмасьці, пра ўтрыманьне, пра выплаты пры выхадзе са складу двара, пра зьмену гаспадара і няправільную рэгістрацыю ўсякіх зьмен у складзе двара, пра страты, калі гэтыя іскі падаюцца разам з зямельным і воднымі іскамі, а таксама падаваемыя ў двохтыднёвы тэрмін скаргі на пастановы агульных сходаў зямельных грамад і калякываў. Акруговая-ж зямельная камісія вырашае іскі аб стратах, якія падаюцца аднachасова з падсуднымі ёй іскамі пра землі і воды. Значыць, калі да гэтага часу падсуднасьць справаў зямельным камісіям вызначалася на толькі аб'ектам спрэчкі, але і ўдзельнікамі працэсу, то цяпер па новаму закону падсуднасьць гэтая залежыць выключна ад аб'екту.

Народнаму-ж суду падсудны спрэчкі пра землі ў межах гарадзкой і местачковай сядзібы і пра землі спэцыяльнага прызначэньня—лясныя адведзеныя транспарту, вайсковым уставам і г. д. Іскі пра маёмасьці

вырашаюцца народным судом толькі ў тым выпадку, калі іскі гэтыя падаюцца асоба, якія не належаць да складу гэтага двара. Іскі аб стратах, якія выцякаюць з зямельных і водных спраў і падаюцца ад іх, таксама разглядаюцца народным судом.

З ліку зямеляўпарадачных спраў раённая зямеляная камісія разглядае як першая інстанцыя, спрэчныя праекты ўпарадкаваньня працоўных зямель усіх дзяржаўных зямельных маёмасьцяй, пры чым праекты ўнутрысяленнага і міжсяленнага земляўпарадкаваньня яна разглядае адначасна з прад'яўленьнем праекту насельніцтву з выездам на месца, дзе праводзілася ўпарадкаваньне. Справы-ж пра агранічэньне зямель гарадзкіх і сацыяльнага прызначэньня разгладаюцца акруговаю зямельнаю камісіяй.

Спрэчкі, якія выцякаюць з паказаных насельніцтву мэліярацыйных спраў, вырашаюцца ў судовым парадку. Калі мэліярацыя праводзілася ў сядзібнай мяжы гарадоў і мястэчках, а таксама на землях спэцыяльнага прызначэньня, скаргі на мэліярацыйны праект разглядае народны суд. Тыя-ж скаргі на мэліярацыю, якая праводзілася па-за гарадзкой сядзібай, але ў агульных межах гарадоў, вырашае акруговая зямельная камісія. Усе-ж іншыя спрэчныя мэліярацыйныя разглядае раённая зямельная камісія.

Ёй-жа падсудны і лесаўпарадчыя справы ў частцы адмежаваньня зямель лясных ад іншых. Раённая зямельная камісія разглядае як спрэчныя, так і і бясспрэчныя праекты адмежаваньня дзяржаўнага лясного фонду пры адмежаваньні лясоў мясцовага значэньня, яна разглядае толькі спрэчкі, бо пры гэтым адмежаваньні лесаўпарадчыя праекты не складаюцца.

Значыць, народны суд вырашае паказаныя вышэй катагорыі спрэчак па зямельных, водных і мэліярацыйных справах, справы-ж пра ўпарадкаваньне зямель і лясоў яму не падсудны

**Е. Вішнеўскі**

---

# Паштовая скрынка.

Сел. Я. М. Савіцкаму. Артыкул „Як Кавалёў Хведар атрымаў з дзесяціны 1500 пудоў бульбы. Сел. Івановічу А. „Апісаньне сваёй гаспадаркі і Т. П. Мураўскага. Сел. Кауру С. С.—„Аб працы па пашырэньню пасеву і павялічэньню ўраджаю кораньплодаў, разам з пасьведчаньнем. Сел. А. Карунчык—артыкул „Вясковы фельетон" і „Ці абкладаць жывёлу". Г. Шасьціткa „Торф, як кармовы прадукт", ўсе гэтыя артыкулы перасланы ў рэдакцыю газэты „Беларуская Вёска".

Сел. Сьлянскаму. Артыкул „Вынікі досьледу над пасадкай бульбы", прысылайце скарыстаем, калі будзе каштоўным. Высланыя Вам брашуркі зьяўляюцца прэміяй да часопісі „Плуг".

# ПРАЦА НА БАЛОЦЕ

## Аб паляпшэньні сенажацяй.

Перш, чым узяцца за паляпшэньне сенажацяй, трэба добра ўцяміць тыя прычыны, ад якіх ураджаі горшаюць.

Сенажаць і ўкосы на іх горшаюць: 1) ад лішняй вільгаці, 2) ад задзярненьня, 3) ад зьбядненьня глебы, страты ёю спажыўных матэрый.

Дасьледчыя станцыі выпрацавалі спосабы барацьбы з гэтымі „хваробамі“ сенажацяй. Прычынаю порчы сенажацяй і, наогул, паплавоў часта бывае сам гаспадар. Як толькі сойдзе сьнег і яшчэ не пасьпее стужэць глеба, жывёла выпускаецца на поплаў. Поплаў разгружваецца, на ім утвараецца куп'е, паміж якога застойваецца вада, а дзе вада, там пачынае расьці мох, асака і, наогул, пачынаецца забалочваньне. Тое-ж трэба сказаць і адносна пашы ўвосень.

Пускаць жывёлу на сенажаць можна толькі на атаву і не раней, як праз 2 тыдні пасьля кошлі. Спыняць пасьбу трэба таксама тыдні за два да замаразкаў.

Несваячасовая, залішне-позьняя касьба таксама псуе траву. Не кажучы пра тое, што сена атрымоўваецца старое, нясмачнае, сенажаць засьмечваецца, пашыраюцца шкодныя для жывёлы расьліны, як чэмер, дурнап'ян, амежнік, малачай і інш. Кошля ў час красаваньня злакаў не дае пасьпець, а значыць і расьсяецца многім сьметняком. Як пазнаць, што поплаў залішне вільготны?

Калі ў сьлядох ад капыт жывёлы стаіць вада, калі вада выціскаецца з-пад ног чалавека, дык асушка такога поплава неабходна. Глеба тут рудая з іржавымі плямамі. Наогул, трэба сказаць, што трава ляпей сябе адчувае тады, калі грунтавая вада стаіць ад паверхні ня бліжэй, чым 60 см. Гэта даведацца лёгка. Трэба выкапаць на поплаве яму ў 1 мэтр і праз дзень памераць, як глыбока ад паверхні ў яме вада. Занадта вільготныя паплавы трэба асушаць, пракапаўшы канавы. За парадаю па пытаньнях, дзе капаць канавы і як, трэба зьвярнуцца да раённага культуртэхніка ці гідратэхніка, або ў АКРЗА. Рабіць асушку самому, „на вока“, ня трэба, бо часта можна памыліцца, вада пойдзе ня туды, куды трэба і прападзе дарэмна праца.

Як зьнішчаць на сенажацях дзярван, мох? Для гэтага ёсьць лугавыя бораны, якімі і належыць сенажаць прабараноўваць. У гэтых барон зубы-нажы. Добра выбараноўвае мох ланцужная лугавая барана з кароткімі зубамі „Лааке“. Для зьністажэньня дзёрну і моху годна барана Аўраса, якая сама абчышчаецца на хаду. Лепшаю для баранаваньня дзёрну лічыцца барана Разеўскага. Лугавыя бораны для працы можна пазычыць на бліжэйшым агранамічным ці пракатным пункце.

Можна, урэшце, карыстацца двайной бараной „Зіг-Заг“ ці самадзельнымі баронамі з зубамі-нажамі, якія зможа зрабіць кожны каваль. Для глыбокага разрэзваньня дзёрну на поплаве вельмі годна талерачная барана „Рандаль“.

Баранаваньне падвышае ўраджай сена толькі вось у якіх выпадках: 1) калі пад дзёрнам пульхная глеба, 2) калі пласт дзёрну ня тоўсты (ня больш 8 см.), 3) калі глеба да паверхні вільготная.

Толькі на задзярнеўшых заліўных сенажацях адно баранаваньне выгадна.

Мох трэба зьдзіраць вельмі рана з вясны, як толькі растане павярховы пласт. Тады мох лёгка вычэсваецца.

Баранаваць трэба абсохшую сенажаць, калі зямля ня ліпне, а крышыцца. Лепш баранаваць два разы—„да чорна“ увосень (з пачатку жнівеня і пазьней) і вясною.

Мэта баранаваньня—зрабіць доступ паветра да каранёў расьлін, дзякуючы чаму расьліны пачынаюць шпарчэй расьці.

Спажыўныя матэрыі сенажаці даюцца ў форме ўгнаеньня.

Якое-ж ужываць для сенажаці ўгнаеньне і ў якой колькасьці?

Гаспадар, які звозіць з поплаву сена, звозіць і тыя спажыўныя рэчы, якія трава атрымала з глебы. Гэтыя рэчы ёсьць: калі, фосфар, вапна, салетра і інш. Праз гэта і бяднее глеба.

На поплавы можна скарыстоўваць усе тыя ўгнаеньні, як і на полі—гной, попел, парашкі, кампост, жыжку з гною і інш.

Бязумоўна, каб дасканала ведаць, чаго не хапае на данай сенажаці, трэба закласьці досьлед. Досьлед трэба правесьці з наступным угнаеньнем, згодна табліцы.

| Назва ўгнаеньня | Праз колькі год даваць | На якія сенажаці | Колькі трэба на гэктар | Колькі расьсяваць і як |
|---|---|---|---|---|
| Попел | Кожны год | Нізкія сухадолы | 800--1000 кгр. | Вясною ці ўвосень. Рукамі ці сяўнікам. Забараноўваецца. |
| Жыжка з гною | Праз 3 гады | Усе бедныя | 40—60 бочак | Вясною ці пасьля сенажаці ў хмурны дзень. Жыжка разбаўляецца вадою, вядро на вядро. |
| Гной (добра перапрэлы) | 3—4 | „ | 200-360 цэнтнер (2.400 пуд.) | Вясною, як толькі сыйдзе сьнег, ці ўвосень. Раскідваецца па паверхні. |
| Кампост | 3—4 | „ | „ | Вясною ці ўвосень. У хмурны дзень рассыпаеццл рыдлёўкамі і разроўніваецца граблямі |
| Вапна | 4—5 | Сырыя, кіслыя | 12--16 цэнтн. (80—100 п.) | Вясною каменьні вапны складваюцца кучамі і закрываюцца зямлёю. Восеньню парашок з іх рассыпаецца па поплаве. |
| Каліева соль | Кожны год | Нізавыя, вільготныя, багатыя перагноем глебы | 2—3 цэнтн. (12—18 пуд.) | Пасьля баранаваньня вясною ці ўвосень. Рукамі ці сяўнікам. |
| Тамасаўка | „ | „ | 4—6 цэнтн. (24—36 пуд.) | „ |
| Фасфарыт | „ | На кіслых глебах | 5—6 цэнтн. (30—40 пуд.) | „ |
| Супэрфасфат | „ | Ня сырых, ня кіслых глiністых і суглiністых | 2—3 цэнтн. | „ |

Мяшанка фосфарнага ўгнаеньня і каліевага робіць вельмі добры ўплыў на сенажаці. Гэта значыць мяшанка супэрфасфату ці тамасаўкі з каліевай сольлю ці попелам (у попелу многа калія). Гэтыя ўгнаеньні зьмешваюцца перад самай рассыпкай (ніяк не раней).

Фосфарна-каліевае ўгнаеньне неабходна чаргаваць з гнаёваю жыжкаю ці кампостам. Так: 3 гады ўносіцца калі-фосфарныя парашкі, а чацьвёрты—жыжка. У такіх выпадках сенажаці ўвесь час будуць даваць высокія ураджаі і добрай якасьці.

Паказаную колькасьць штучнага ўгнаеньня трэба даваць на бедныя сенажаці першы год, для запраўкі іх. У наступныя гады парашкоў можна даваць у $1^{1}/_{2}$—2 разы менш.

Старыя сухадолы з тоўстым пластом дзёрну, замшэлыя з дрэнною травою, павярхоўным спосабам апрацоўкі не паляпшаецца. Іх трэба з восені ўзараць і вясною пад гной пасеяць віку з аўсом, ці чысты авёс.

Вось галоўныя спосабы паляпшэньня сенажацяй.

(Менск, Навукова-Дасьледчы Інстытут). Асыстэнт *Лебядзевіч.*

---

## Трэба ўгнойваць сенажаці.

Вясною мной быў закладзен досьлед з мэтай выяўленьня ўплыву штучнага ўгнаеньня на лугавыя расьліны, каб пазьней паказаць сялянам вынікі гэтага мерапрыемства, бо сяляне і цяпер яшчэ думаюць, што сенажаць ўгнойваць ня трэба.

Дзеля досьледу былі ўзяты сенажаці ў двух вёсках. У ваднэй вёсцы сенажаць, якая пачала забалачвацца, а ў другой—сухадольны поплаў. На кожным з іх было выбрана па 200 кв. саж. роўнай бяз купін плошчы, якая ў сваю чаргу была падзелена папалам, г. ё. па 100 кв. саж. Такім чынам, на кожным поплаве было зроблена па дзьве дзялянкі. Адна з дзялянак заставалася кантрольнай, а другая ўгнойвалася, павярхоўна, адным пудам супэрфасфату і 20 фун. калійнай солі, што складае 24 пуды супэрфасфату і 13 пуд. калійнай солі на дзесяціну. Унесенае ўгнаеньне, у выпадку вялікай вільготнасьці сенажаці, пасьля не забараноўвалася. Скошаны дасьледчыя вучасткі ў той самы час, калі касілі ўсе сяляне. Вынікі атрымаліся наступныя:

| Назва сенажаці | Ураджай сена з дзял. | | | Ураджай з дзес. | |
|---|---|---|---|---|---|
| | З угнаеньнем | Кантрольн. | Розьніца | З угнаеньнем | Без угнаен. |
| Сухадольная . . | 10 пуд. | 7 пуд. | 3 пуд. | 240 пуд. | 168 п. |
| Забалочаная . . | 19 п. 10 ф. | 9 п. 30 ф. | 9 п. 20 ф. | 342 пуд. | 229 п. |

Унясеньне 24 пуд. супэрфасфату і 12 пуд. калійнай солі на дзесяціну сухадольнай сенажаці дае прыбаўку сена ў 72 пуда, а на вільготнай, нізіннай—111 пуд.

Лічбы досьледу, як бачым, яскрава паказваюць нам неабходнасьць угнойваць сенажаці. Затрачаныя грошы на закупку штучнага ўгнаеньня зьвяртаюцца пры атрыманьні ўраджаю сена ў першы-ж год, сена атрымліваецца ня толькі больш па колькасьці, але і па якасьці лепшае, таму што штучнае ўгнаеньне садзейнічае паляпшэньню батанічнага складу травастою.

Аграном *Г. Кузін.*

---

# Капайце торф, скарыстоўвайце яго на ўгнаеньне на полі.

Ва ўмовах Беларусі гной пакуль што зьяўляецца адзіным распаўсюджаным угнаеньнем у сялянскіх гаспадарках. Але неабходна прызнаць, што гною ў селаніна бывае досыць мала, яго не хапае для добрага ўгнаеньня поля.

Штучнае ўгнаеньне ў сучасны момант таксама ня можа служыць адзіным спосабам для паляпшэньня ўраджаю большасьці сялянскіх палёў. Узбагачэньне нашых глеб арганічнымі матар'яламі, дасягаецца пасевам лубіну на зялёнае ўгнаеньне.

Ї яшчэ ў гаспадароў Беларусі ёсьць адно ўгнаеньне, якое часам, нават больш таннае і даступнае, чым гной і лубін; *гэта—торф.* Досыць вялікая плошча балот у Беларусі дае невычарпальную колькасьць гэтага ўгнаеньня.

Унесены ў глебу торф, пры сваім раскладзе дае патрэбныя для расьліны пажыўныя матэрыі і апрача таго ўзбагачае арганічную частку глебы, як гной і зялёнае ўгнаеньне. Арганічныя матар'ялы торфу паляпшаюць уласьцівасьці глебы, робяць цяжкія глеяватыя глебы больш пульхнымі, а пескавыя больш зьвязнымі. Арганічныя часткі дапамагаюць цэмэнтаваньню дробных частачак глебы і такім чынам утвараюць яе структуру, што асабліва важна для нашых беларускіх моцнаападзоленых, бязструктурных глеб.

Працамі с.-г. дасьледчых станцый нечарназёмнай паласы ўжо даўно сьцверджан добры ўплыў торфу, як угнаеньня, асабліва належна падрыхтаванага.

Падрыхтоўка зьяўляецца ў тым, што яго выкапваюць і складаюць у кучы, каб ён праветрыў. Сьвежа-ж выкапаны торф можа часамі выказаць нават шкадлівую дзейнасьць на расьліны, таму, што ён можа зьмяшчаць атрутныя матар'ялы.

Далей торф прапануюць прапушчаць праз хлеў альбо кампаставаць яго ў кучах разам з гноем і з іншымі адкідамі.

Уплыў тарфянога гною і тарфянога кампосту ня толькі ня ўступае хлеўнаму гною, але нават перавышае яго і праяўляе сваю дзейнасьць на больш доўгі тэрмін, чым звычайны гной. Для ілюстрацыі паказваю ўплыў торфу на працягу шэрагу гадоў на авёс.

| Ураджай аўсу на 1 дзес. быў: | | 1 год па ўгнаеньні | без угн. 2 год | 3 год без угн. |
|---|---|---|---|---|
| Гной саломісты | 2400 пуд. на дзес. | 145 п. | 151 п. | 115 п. |
| Гной тарфяністы | 2400 „ „ „ | 160 п. | 171 п. | 179 п. |
| Торф | 4800 „ „ „. | 163 п. | 160 п. | 163 п. |

Сяляне Архангельскай губ. ужо даўно пазналі карысьць, якую дае торф пры ўгнаеньні іх бедных, падзолістых і пескавых глеб. Сяляне навозяць яго ў сван хлявы яшчэ ўзімку таўшчынёю 1$^1/_2$ да 2—арш.

Потым, у красавіку, на гэты торф пераводзяць скаціну, якая стаіць на ім 3—4 м-цы, а ў канцы жніўвеня ўсю гэту масу тарфянога гною вывозяць на поле пад ячмень. Тарфяны гной вывозіцца таксама і на папарнае поле.

Больш моцныя і старэнныя гаспадары трымаюць торф у кучы каля двара, а ўжо потым напаўняюця ім хлявы. Часамі рыхтуецца тарфяны кампост каля самага двара і тады ён ідзе ў адну кучу з попелам, памыямі і іншымі адкідамі гаспадаркі.

Калі поле мае значную адлегласьць ад гаспадаркі, дык у гэтых выпадках сяляне накопаны торф падвозяць да самага поля і складаюць у кучы, якія потым ляжаць ня менш 2-х год; часам да торфу дабаўляюць вапну.

Уплыў аднаго торфу, па назіраньні сялян Архангельскай губ., заўсёды аказваецца ніжэй тарфянога гною.

Як бачым з вышэй паказанага, у дзейнасьці торфу, асабліва тарфянога гною і кампосту, як угнаеньня, ня прыходзіцца, сумлявацца, бо практыка шмат якіх дасьледчых станцый і сялян кажа аб адным і тым-жа.

Большасьць-жа нашых сялян не клапацяцца аб павялічэньні гною да таго часу, аж пакуль яго ня трэба вывозіць на папар, і толькі тады, убачыўшы, што гною ня хопіць, яны сазнаюць увесь сур'ёз становішча, але тады, звычайна, бывае ўжо позна. Пры кампаставаньні-ж торфу ў полі, ніколі ня бывае позна, каб толькі быў нарыхтованы торф.

З разьвіцьцём мэліярацыі сялянскіх лугоў і балот, можна з посьпехам выкарыстоўваць торф, які выкідваецца пры капаньні канаў і які ўтварае амаль што непатрэбныя і нават шкадлівыя грэблі ўздоўж гэтых канаў.

Асабліва вялізарную паслугу можа прынесьці „кампаставаньне“ торфу ў полі пры ўгнаеньні палёў, якія знаходзяцца далёка ад сялібы. Тут замест таго, каб торф вазіць у двор і назад, прадстаўляецца магчымасьць вывозіць торф непасрэдна на поле.

Таксама замест таго, каб на адну—якую частку поля вывозіць поўную норму гною, а другую пакідаць зусім без угнаеньня, як гэта часта робяць нашы сяляне, з прычыны недахопу гною, больш мэтазгодна ўвесь запас гною разьмяркаваць па ўсім полі, з адпаведнай прыбаўкай тофу.

Аграном *С. Карась.*

---

**Выданьне Наркамзему.** Адк. рэд. **Зьм. Прышчэпаў.**

Рэд. кол. { *Э. Русецкі, Шукевіч, А. Смоліч, Саф. Хоміч, Сьц. Тупяневіч.*

# Выданьні Наркамзему

1. **Атабекянц**. Шляхі бэконізацыі сьвінаводзтва БССР. 1927 г. 32 стар. . ц. — 15 к.
2. **Праф. Ліскун**. Агульная жывёлагадоўля. 1926 г. 140 стар. . . ц. — 70 к.
3. **Проф. И. Кулагин**. Красный Белорусский скот. 1923 г. 18 стар. . ц. — 5 к.
4. **Праф. А. Чалінцаў**. Аб рахунковым аналізе сельскае гаспадаркі. 1924 г. 68 стар. . . . . . . . . . ц. — 40 к.
5. **Праф. Штэйнберг**. Практычнае гародніцтва. 1924 г. 136 стар. . ц. — 60 к.
6. **Я. Пачопка**. Як узгадаваць і даглядаць сад. 1923 г. 72 стар. . . ц. — 20 к.
7. **Л. Калікінскі**. Лубін і яго культура. 1924 г. 40 стар. . . . ц. — 20 к.
8. **С. М. Тупяневіч**. Спосабы барацьбы з кілою капусных расьлін. 1927 г. 32 стар. . . . . . . . . . . ц. — 25 к.
9. **С. Тупяневіч і П. Заяц**. За лепшую сельскую гаспадарку. 1926 г. 78 ст. ц. — 25 к.
10. **М. Лайкоў**. Аб складаньні пераходных табліц на шматпольле. 1926 г. 20 стар. . . . . . . . . . ц. — 25 к.
11. **С. Тупяневіч і А. Дзямідовіч**. Вывучэньне тэхнікі сялянскага ральніцтва. 1926 г. 28 стар. . . . . . . . ц. — 25 к.
12. **А. Михайлов**. Очерк развития агрономической помощи в БССР. 1923 г. 28 стар. . . . . . . . . ц. — 10 к.
13. **П. Бойко**. Что должен знать переселенец о Д. Востоке и Сибири. 1927 г. ц. — 25 к.
14. **И. Седашев**. Лесное хозяйство. 1923 г. 15 стр. . . . . ц. — 5 к.
15. **С. Ждановіч і Ярашчук**. Характарыстыка сельскай гаспадаркі Беларусі. 1926 г. 140 стр. . . . . . . . . . ц. — 70 к.
16. **Б. Бабицкий**. Производственные минимумы в крестьянском хозяйстве БССР. 1927 г. 54 стар. . . . . . . . . ц. — 25 к.
17. Сельское хозяйство БССР и мероприятия по его восстановлению. 1925 г. 80 стр. . . . . . . . . . ц. — 25 к.
18. **Л. Ивицкий.** Перечень действующего земельного законодательства БССР. 1927 г. 26 стр. . . . . . . ц. — 15 к.
19. Земельный кодекс БССР с узаконениями, правилами и инструкциями. 1927 г. 354 стр. . . . . . . . . ц. 2 р. 60 к.
20. **Проф. Пичета.** История сельского хозяйства и землевладения в Белоруссии до конца XVI века. 1928 г. 180 стр. . . . ц. 1 р. 80 к.
21. **Перспективный план НКЗ** на 1925—30 г. в выпусках. 1927 г. 960 стр. ц. 3 р. 55 к.
22. **А. Д. Дубах.** 1) Изменения профиля осушительных канав с течением времени. 2) Урожай трав на канализованном болоте. 3) Наростание мха и торфа на болоте. 4) М. Л. Лейвиков. Рост сосны на канализованном болоте. 1926 г. 86 стр. . . . . . . . ц. — 65 к.
23. **К. К. Киселев.** Водный режим реки Орессы. 1926 г. 40 стр. (вып II). ц. — 40 к.
24. **В. Г. Касаткин.** Почвенная характеристика заболоченных пространств Белорусского Полесья. 1926 г. 48 стр. . . . . ц. — 30 к.
25. **В. В. Адамов и И. К. Ярошевич.** Обзор растительности Белорусского Полесья. 1927 г. 96 стр. . . . . . . ц. — 50 к.
26. **Н. С. Фролов**. Вопросы экономики мелиораций. 1926 г. 160 стр. . ц. — 80 к.
27. **А. Д. Дубах.** Пути к уточнению проектирования осушительных работ. 1927 г. 52 стр. . . . . . . . . ц. — 30 к.
28. **Н. М. Савич.** Результаты гео-ботанических исследований в быв. Рогачевском уезде. 1926 г. 140 стр. . . . . . . ц. — 80 к.
29. **Т. Анціпенка.** Прыборка, захаваньне і перавозка бульбы. 1927 г. 30 стар. . . . . . . . . . ц. — 12 к.
30. **С. М. Тупяневіч**. Сялянскі с.-г. досьлед па БССР. 1927 г. 32 стар. . ц. — 15 к.
31. **Аб лесе і торпе.** 1928 г. 20 стар. . . . . . ц. — 12 к.
32. **Ч. А. Бялюнас**. Жыцьцё і гадоўля лесу. 1928 г. 48 стар. . . ц. — 50 к.
33. **С. І. Журык**. Халоднае сіласаваньне. 1928 г. 24 стар. . . ц. — 15 к.
34. **К. К. Киселев**. Водный режым реки Орессы (вып. VII) . . ц. — 50 к.
35. **М. С. Савіцкі**. Вынікі палёвых досьледаў з угнаеньнямі на Меншчыне. ц. — 25 к.

**ЦАНА 20 кап.**

306

36. **Цынкоў і Пліс.** На дапамогу каляктыўнаму будаўніцтву. 1928 г. 24 стар. . . . . . . . . . ц. — 18 к.
37. **В. А. Аляксандраў.** Будуйце скоцкія могілкі. 1928 г. 16 стар. . ц. — 05 к.
38. **И. В. Отоцкий.** Уборка плодов с деревьев, упаковка и хранение. 28 стар. . . . . . . . . . ц. — 05 к.
39. Кармовыя расьліны „сэрадэля і пялюшка“. 16 стар. . . . ц. — 03 к.
40. **Н. К. Ярошевич.** Сельско-хозяйственные районы Минской губернии и БССР. 1923 г. 84 стар. (з 29 картаграмамі) . . . ц. — 50 к.
41. **Ф. И. Михайловский.** Таблицы гидравлического расчета осушительных и оросительных каналов, под редакцией А. Д. Дубаха. 1922 года. 320 стар. . . . . . . . . . ц. 1 р. —
42. **В. П. Живан.** Что нужно помнить начинающему агроному. 24 стр. . ц. — 10 к.
43. **В. К. Пухликов.** Нужна-ли мелиорация. 16 стар. . . . ц. — 03 к.
44. **С. П. Токмачев.** Школа крестьянского хозяйства. 40 стр. . . ц. — 15 к.
45. **И. П. Скоморохов.** Что должен знать крестьянин о лесе. 70 стр. ц. — 25 к.
46. **Водна-мэліярацыйны кодэкс (на дзьвёх мовах—расейскай і беларускай). 1928 г.** 46 стар. . . . . . . . ц. — 40 к.
47. Зьвесткі станцыі барацьбы са шкоднікамі (працы Н.-Д. І.). 1927 г. 56 стар. . . . . . . . . . ц. — 35 к.
48. **М. М. Пілько.** Да характарыстыкі эканамічнага значэньня шкоднікаў на Беларусі (Н.-Д. І.). 1927 г. 12 стар. . . . . ц. — 10 к.
49. Суслакі на Беларусі (станцыі па барацьбе са шкоднікамі) (Н.-Д. І.). 1927 г. 64 стар. . . . . . . . . ц. — 35 к.
50. **Е. Г. Яцентковская-Потаюк.** Крысы и мыши и меры борьбы с ними 1927 г. 8 стар. . . . . . . . . ц. — 05 к.
51. Вучоны аграном **У. С. Ліневіч.** Рэнтабельнасьць інтэнсыўнай культуры балот, па 12-гадовых матар'ялах Менскай балотнай дасьледчай станцыі (Н.-Д. І.) 1928 г. 72 стар. . . . . . ц. — 40 к.

**Заказы накіроўваць**: *Менск, Савецкая 71. Выдавецтва НКЗ.*

## АБВЕСТКА

Выдавецтва НКЗ паведамляе аграномаў, зямельныя органы, кіраўнікоў школ, і інш., што яно складае патрэбныя с.-г. бібліятэчкі для прэміраваньня сялян за лепшыя вынікі ў дзень „Сьвята ўраджаю“, а таксама для папаўненьня бібліятэк аграпунктаў, хат-чытальняў, вясковых школ і школ сямігодак. Выдавецтва НКЗ гэтыя бібліятэкі складае як з сваіх, так і з чужых выданьняў (Дзяржбелвыдавецтва, ГИЗ і інш.) і прадае з вялікім процантам скідкі (ад 20 да 50 прац.).

**Надрукавана і паступіла у прадажу кніжка „На дапамогу будаўніцтву каляктываў“ аграномаў Цынкова і Пліса. Старонак 24. Цана 18 кап.**

Менск, 1-ая друкарня. „БДВ.“ Зак. № 3351. Галоўлітбел № 2104. У ліку 1600 экз.